PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 32 (1995) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 7 ЖНІЎНЯ 1994 г. ЦАНА 4000 зл.



*Сонца, вада, дзяўчаты...* **Фота Я. Целушэцкага**

## ДАЛЁКАЕ І БЛІЗКАЕ МІНУЛАЕ ГАЙНАЎКІ

Даўным-даўно існавала ўрочышча Гайнаўшчына. Захавалася рукапісная занатоўка: „у Гайнаўшчыне ў „абрубе" было сем пасяленцаў"... Гайнаўка — назва прыналежная ад асабовай лясного стражніка Гайныма Гэйно, які ў XVIII стагоддзі пасяліўся ва ўрочышчы Скарбаслаўка над рачулкай Скарбаслаўкай, левым прытокам Лясной. Пасля тое ўрочышча пачалі называць Гайнаўшчынай, а абшар лесу каля ўрочышча назвалі Гайнаўскай Стражай.

Гайнаўка як вёска выступае позна — толькі ў XIX стагоддзі. У 1894 годзе тут пабудавалі чыгуначную лінію і праз некаторы час — першыя невялікія дрэваапрацоўчыя прадпрыемствы.

У 1921 годзе вёска налічвала 748 жыхароў ды фабрычны пасёлак — 287. Праз наступныя дзесяць гадоў Гайнаўка была 12-тысячным пасёлкам. Мясцовыя жыхары займаліся пакрысе рамяством ды сельскай гаспадаркай, шматлікія знайшлі сабе працу ў дрэваапрацоўчай прамысловасці. Найважнейшым прадпрыемствам была фабрыка перапрацоўкі лісцевай драўніны. Тады ўжо існавала школа, якая рыхтавала кадры для фабрыкі.

Чаму якраз у Гайнаўцы пачала развівацца дрэваапрацоўчая прамысловасць? У 1915 годзе немцы, захапіўшы Белавежскую пушчу, пачалі інтэнсіўную эксплуатацыю драўніны. З мэтай аблягчэння транспарту драўніны, у пушчы было пабудавана звыш 100 кіламетраў вузкакалейнай чыгункі ды падрыхтавана склад. Аб размерах эксплуатацыі сведчыць факт, што за 3,5 гады адсюль вывезена каля 4 млн. кубаметраў высакаякаснай драўніны. Наспех пабудавана фабрыка восенню 1915 года згарэла. Аднак, узрастаючыя патрэбы фронту змусілі немцаў адбудаваць фабрыку і павялічыць прадукцыю.

Усёй загатоўленай драўніны адзін дзесяціпільны завод перапрацаваць аднак не мог. Таму дзеля лепшага выкарыстання сыравіны немцы пабудавалі завод сухой перагонкі драўніны. Патрабаваў ён большых капіталаўкладанняў і прыняло яго манапалістычнае аб'яднанне „Гродзіск". Тут прадукавалі, між іншым, вугаль, смалу, воцатную кіслату і некаторыя эфірныя алеі.

У 1916 годзе немцы здалі ў карыстанне драўляны будынак кіно. Не на доўга. У 1919 годзе будынак кіно перабудавалі на касцёл.

У міжваенны перыяд, а дакладна з 1932 года пачалася перабудова лесапільні. Арганізавалі сталярны, фрэзерны і паркетны цэхі, а таксама асобныя цэхі лесапілення лісцевых і хвойных парод дрэў. У пачатку 1939 года тут працавала каля 2 000 рабочых, на дзве і тры змены. Гайнаўка стала вядомай у краіне. Сюды ў пошуках працы прыбывалі беспрацоўныя з усёй Польшчы.

У гэтым жа часе прамыслоўцы Паросскія пабудавалі завод драўнянага спірту так званую „тэрпентыноўню". Працавала ў гэтым аб'яднанні „Тэрэбэнтэн" 200 рабочых.

Была пашырана сетка вузкакалеек да 164 км, павялічаны перасовачны састаў і заснавана прадпрыемства „Калейкі лесьнэ".

Яшчэ напярэдадні II сусветнай вайны Гайнаўка была ў палове чыста вясковым пасяленнем. Дамы ў пераважаючай сваёй колькасці былі пабудаваны ўздоўж шашы з Белавежы ў Бельск. Адметным было тое, што Праўленне прадпрыемстваў адкрыла дом культуры са святліцай, бібліятэкай ды кіназалам.

У 1942 годзе на пляцоўцы былога надлясніцтва „Лесна" вернікі пабудавалі драўляную царкву. У 1946 годзе дабудавалі званіцу, а ў 1950 годзе для храма купілі пяць званоў.

Пасля вызвалення Гайнаўкі ў 1944 годзе рабочыя і мясцовыя сяляне самі адбудавалі электрастанцыю, частку цэха лесапільні і пачалі першапачаткова прадукцыю толькі піламатэрыялаў, а пасля сталяркі (для будоўляў Варшавы), фрызаў, тары, бочак.

У 1945 годзе Гайнаўка налічвала сем тысяч жыхароў. Праз пяць год яна атрымала гарадскія правы. Тады тут ужо пражывала 8 276 чалавек, а

☞ *Працяг на стар. 3*

## УЯЎНАЯ ДЫСКРЫМІНАЦЫЯ

Збіраючыся глядзець трансляцыю сесіі Вярхоўнага Савета, на якой нававыбраны прэзідэнт Рэспублікі Беларусь прысягаў вернасць канстытуцыі і беларускаму народу, я не прадбачваў ніякай палітычнай сенсацыі. Вядома, такая ўрачыстасць — гэта перш за ўсё цырымонія. І так у сапраўднасці было. Пасля прысягі паплылі прывітанні, віншаванні, пажаданні, заявы. Маё меркаванне поўнасцю апраўдалася б, калі б не апошні прамоўца, які ў моры гладкіх выступленняў вылучыўся канкрэтнасцю свайго пастулата. Рускамоўны народны дэпутат, даўшы прэзідэнту параду-ўказанне тыпу „ўсіх слухай, але свой розум мей", запатрабаваў, каб той, па прыкладу новага прэзідэнта Украіны, дэкрэтам вярнуў рускай мове статус дзяржаўнай і такім чынам зрабіў яе раўнапраўнай з беларускай мовай.

У гэты момант я жахнуўся. Аб якім раўнапраўі гаворыць гэты дэпутат? Хто тут пакрыўджаны? Ці ж гэты парламентарый не бачыць (дарэчы, ён дэпутат ад таварыства сляпых) і не чуе, што ў Рэспубліцы Беларусь паўсюдна царствуе руская мова? Ці ж народны абраннік, які павінен адстойваць суверэнітэт рэспублікі, не свядомы таго, што ў незалежнай дзяржавы можа быць свая мова і свая атрыбутыка? Ці ж яму не відна, што Вярхоўны Савет устанавіў беларускую мову дзяржаўнай дэ-юрэ, але дэ-факта такую ролю ў далейшым выконвае руская мова?

Не трэба ехаць у Беларусь, каб пераканацца, што беларускай мове далёка яшчэ да рангу дзяржаўнай. Хопіць уключыць тэлевізар або радыёпрыёмнік ці пагартаць газеты і часопісы. Возьмем для прыкладу хаця б згаданую сесію Вярхоўнага Савета. Па-беларуску гаварылі на ёй спікер парламента, два дэпутаты ад апазіцыі, ну і сам прэзідэнт, але толькі тады, калі з карткі чытаў тэкст прысягі. Пераважная большасць народных дэпутатаў у далейшым аддае перавагу мове вялікага брата.

На дзяржаўным тэлебачанні і на такім жа радыё дзяржаўнай мовай у прынцыпе карыстаюцца дыктары і журналісты, але ўжо іх суразмоўцы, асабліва чыноўнікі розных рангаў і гаспадарчыя дзеячы, бесперашкодна і з гордасцю шпараць на „дыскрымінаванай" мове. Апошнім часам лексіка рускамоўнага насельніцтва Беларусі папоўнілася тэрмінам „мова", які выступае ў якасці сіноніма беларускай мовы. „Разговаривать на мове" — гэта не што іншае, як размаўляць па-беларуску, паколькі ўсе на штодзень „разговаривают на языке".

Падобная сітуацыя і ў беларускім, як не дзіва, друку. У большасці газет па-беларуску надрукаваны толькі загалоўкі, бо гэтага патрабуе закон аб рэгістрацыі перыядычных выданняў. Артыкулы ў іх найчасцей друкуюцца ўжо на рускай мове, а ў лепшым выпадку, для аздобы і перастрахоўкі, частка матэрыялаў даецца і на беларускай мове. Рэдактары такі стан рэчаў тлумачаць тым, што друкуюць матэрыялы на мове арыгінала.

Пастанова Вярхоўнага Савета аб наданні беларускай мове статуса дзяржаўнай толькі што прыадкрыла шлях таму працэсу, які можа ўчыніць яе мовай усяго беларускага, у значнай ступені зрусіфікаванага, народа. Дэпутаты парламента, як відаць, не садзейнічаюць ажыццяўленню прынятай сабою пастановы, але шукаюць розныя спосабы, каб адмяніць яе. Нават не пасароміліся выкарыстаць дзеля гэтага ўрачыстасць інаўгурацыі першага прэзідэнта. Ці такія дэпутаты змогуць дзейсна абараняць інтарэсы беларускай дзяржавы?

**ВІТАЛЬ ЛУБА**

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Zarząd Miasta Białegostoku tworzyć będą tylko przedstawiciele centroprawicowej „Jedności”, którzy wybrali na prezydenta Andrzeja Piotra Lussę, członka „Solidarności” i Porozumienia Centrum.*

*(Gazeta Współczesna, nr 137)*

**Палякі ад беларусаў розняцца перш за ўсё тым, што калі маюць нагоду ўзяць уладу, дык яе бяруць поўнасцю. А беларусы, нават калі выйграваюць выбары, шукаюць кагосьці, каму маглі б яе ахвяраваць. Такое сутыкненне мангольскай дэмакратыі і мужыцкай псіхікі!**

* * *

*Podczas wizyty Clintona w Warszawie amerykańscy dziennikarze widzieli Polskę jako kraj czysto komunistyczny, zachowywali się, jakby przyjechali do bantustanu. To komunistyczne, tamto komunistyczne, komunistyczne mózgi, komunistyczne krzesła — krzyczeli.*

*(Polityka, nr 29)*

**Сапраўды, прыкра, калі старэйшы брат Джон не заўважае адданасць і лаяльнасць малодшага сваяка. Ужо пяць гадоў будуецца тут капіталізм паводле ўказанняў амерыканскіх дарадчыкаў, а навалач з-за акіяна нават гэтага не заўважыла?!**

* * *

*Większość posłów — ministrów w rządzie Waldemara Pawlaka nie uczestniczy w posiedzeniach komisji sejmowych. Żaden z nich, łącznie z premierem, nie zrezygnował jednak z 8-milionowego dodatku do ministerialnej pensji, jakim jest poselska dieta.*

*(Polityka, nr 29)*

**Ад улады і грошай добраахвотна адракліся толькі беларусы. Сапраўдны патрыёт бярэ ўсё, што пападзе ў рукі.**

* * *

*Bezspornym jest, że Stolica Apostolska pomagała zbrodniarzom wojennym uniknąć odpowiedzialności. Watykan odegrał olbrzymią rolę w przemycie nazistów i kolaborantów w bezpieczne miejsca. Z pomocy Watykanu skorzystał Adolf Eichmann, Josef Mengele, oświęcimski „anioł śmierci”, Franz Stangl komendant Treblinki odpowiedzialny za zamordowanie 700 tysięcy ludzi, Walter Rauff odpowiedzialny za zagazowanie w samochodach 180 tysięcy osób, Klaus Barbie „rzeźnik z Lyonu”. Do 1948 r. ukrywał się w Watykanie Ante Pavelić, wódz chorwacki odpowiedzialny za śmierć 800 tys. Serbów, 60 tys. Żydów oraz 26 tys. Romów. Papież Pius XII cenił go jako dobrego człowieka i jako dobrego katolika. Papież wiedział o obozach koncentracyjnych, w których w szczególnie brutalny sposób za pomocą młota, siekiery i noża rzeźnickiego mordowano prawosławnych Serbów. Komendantami tych obozów byli księża katoliccy np. w Jasenovac — Filipović i Redić — franciszkanie. Watykan nie zrobił nic dla ofiar faszyzmu, za to udzielił poparcia katom.*

*(Wprost, nr 28)*

* * *

*Jak zostać prezydentem? Prostą receptę dał na Białorusi Aleksander Łukaszenko: skompletować czarną teczkę z tajemniczą zawartością, oskarżyć elity władzy o powszechną korupcję, obiecać wyborcom wszystko czego oczekują i sukces murowany. Nowy prezydent widzi kraj w skali sowchozu, którym kierował. Ma proste recepty, które sprawią, że Białoruś stanie się krajem powszechnej szczęśliwości i dobrobytu.*

*(Trybuna, nr 165)*

**Вясёлы хлопец той наш Сашка.**

* * *

*16 lipca średnio trzykrotnie wzrosły na Białorusi ceny białej wódki. Za pół litra „Biełoj Rusi” płaci się teraz 30 tys. rubli.*

*(Kurier Poranny, nr 145)*

**І як тут жыць цяпер! Прадукт асноўнай патрэбы забралі яшчэ аднаму славянскаму народу. Вячаслаў Францавіч ніколі такога чагосьці не зрабіў бы. Але з другога боку, Лукашок пачаў рэалізаваць сваю эканамічную палітыку зусім нядрэнна.**

* * *

*W Albanii niektóre zabójstwa to odwet za coś, co wydarzyło się ponad pięćdziesiąt lat temu. Rodzina przeczekała okres komunizmu i teraz wykonuje obowiązek zemsty. Reguły prawa zwyczajowego zapewniają harmonię i porządek. Jeżeli chcesz zabić kogoś z mojej rodziny to znaczy, iż godzisz się na to, że potem zginiesz z rąk moich lub mojego brata. Bo któryś z nas musiałby cię zabić.*

*(Reczpospolita, nr 164)*

**Якое ўсё простае і зразумелае!**

* * *

*Trzymilionowe bezrobocie, wyraźny spadek poziomu życia, gwałtowne rozprzestrzenianie się bandytyzmu, wzrost przestępczości gospodarczej, klerykalizacja życia publicznego, drastyczny upadek kultury w ciągu ostatnich lat spowodowało, że większość społeczeństwa śni dzisiaj za PRL-em i szuka ratunku w partiach postpezetpeerowskich.*

*(Trybuna, nr 165)*

* * *

*Rewolucji socjalistycznej nie da się wymazać ze świadomości mas.*

***(там жа)***

* * *

*Asia jest katoliczką, Marek — prawosławny. Asia: Postanowiliśmy wziąć ślub w kościele farnym. Ksiądz kancelarysta dowiedziawszy się, że ma to być małżeństwo wyznaniowo mieszane, roztoczył przede mną czarną wizję naszego przyszłego życia. Przekonywał, żeby Marek zmienił wiarę. Mówił: Ciągnij go, ciągnij go, dziecko, póki jeszcze możesz.*

*(Kurier Poranny, nr 143)*

**Цягнуць і выцягнуць. Відаць у гэтай рэпкі не надта моцны корань.**

* * *

*Politycy uważają bowiem, że jest ich w telewizji za mało, pan Prezydent uważa, że jest go za mało, pan premier również i inni podobnie, aż do ostatniej ciury partyjnej, bez znaczenia — opozycyjnej czy koalicyjnej. Nie wiadomo więc, czy 5 godzin tygodniowo zajmowanych przez PSL — to jest dużo, czy mało. To znaczy wiadomo, że dla PSL-u za mało, dla telewidza — nawet minuta z PSL-em na ekranie jest niepotrzebną stratą czasu. Ale telewidzem nikt się nie przejmuje, dopóki płaci abonament.*

*(Gazeta Współczesna, nr 135)*

* * *

***Народ выбраў новага бацьку. Цікава, чым усё гэта скончыцца?***

***(Свабода, н-р 27)*** .

**Бацькоў у прынцыпе не выбіраецца, а што выбіраецца, лёгка мяняецца.**

* * *

*Po ostatnich wyborach prezydenckich Ukraina może stać się państwem na modłę republik bananowych.*

*(Wprost, nr 28)*

**Бананаў, аднак, там і так не будзе, прынамсі для радавога грамадзяніна.**

# З мінулага тыдня

**Арганізацыя „Wspólnota Polska”**, Камісія па справах палякаў у замежжы Сената РП і Саюз палякаў у Беларусі вырашылі дапамагаць будаваць у Беларусі польскія школы і культурныя ўстановы. У гэтым годзе Саюз палякаў у Беларусі атрымае ад польскага ўрада каля 40 млрд. зл. на інвестыцыі. Дзякуючы гэтай дапамозе, працягвацца будзе пабудова школ у Гродне і Ваўкавыску і дзесяці дамоў польскай культуры. Згодна міжурадавым пагадненням, паралельна з пабудовай школ, фінансаваных польскім бокам, у Гродне будуецца польская школа за кошт беларускага бюджэту.

**Прэзідэнт Лех Валэнса** адкрыў у Варшаве ў цэнтры амерыканскай кампаніі „Проктэр-энд-Гэмбл” самую вялікую інвестыцыю гэтай фірмы ў Сярэдне-ўсходняй Еўропе — фабрыку пялёнак памперс.

**Завяршыліся польска-расейскія гандлёвыя перамовы** на пастаўку чыгуначных цыстэрнаў для перавозкі газу прапан-бутан. Маскоўскае прадпрыемства „Газкомплектимпекс” заказала ў Польшчы 340 такіх цыстэрнаў вартасцю ў 30 млн. долараў.

**У мясцовасці Ждыня** ў Новасандэцкім ваяводстве адбылася **XII Лэмкаўская ватра**, якая згуртавала звыш 10 тысяч удзельнікаў. У ходзе гэтага масавага культурнага мерапрыемства традыцыя перапляталася з сучаснасцю, аб чым вобразна сведчаць дзве імпрэзы: дваццаціпяцігоддзе калектыву „Лэмковына” і выбары лэмкаўскай прыгажуні.

**Кожны турыст**, які выязджае з Беларусі ў Польшчу на машыне або аўтобусе, павінен плаціць экалагічны збор велічынёю ў 6 долараў. Раней мытнікі бралі па долары з чалавека.

**Грузавыя аўтамашыны** танажом звыш 20 тон не могуць карыстацца гранічным пераходам Кузніца-Беластоцкая — Брузгі. У сувязі з будовай моста ў мясцовасці Страж, а таксама з прычыны рамонту моста і віядукта ў самой Кузніцы, грузавы транспарт накіроўваюць на КПП у **Баброўніках**. Рамонт закончыцца ў кастрычніку г.г.

**У Беластоку** прабывалі шэф генеральнага штаба Войска Польскага ген. броні **Тадэуш Вілецкі** і камандзір Варшаўскай ваеннай акругі ген. дывізіі **Юльян Лявінскі**. Візіт генералаў звязаны са стварэннем у Беластоку Мотастралковай брыгады, а размовы датычылі арганізацыйных спраў. Брыгада будзе стаяць у казармах 25 Палка сувязі на вул. Кавалерыйскай. Салдаты 3 Мотастралковага палка ў Цеханове, які стане ядром новай брыгады, ужо рыхтуюцца да перадыслакацыі.

**Беластоцкая хуткая дапамога** атрымала два новыя мікробусы маркі „Мерседэс”, якія будуць прызначаны на рэанімацыйныя карэты. Цяпер Беласток і ваколіцу будуць абслугоўваць тры машыны, у якіх можна прымяняць рэанімацыйныя працэдуры.

**У Беластоцкім паліграфічным камбінаце** вядуцца перамовы паміж дырэкцыяй і прафсаюзамі наконт павышэння заработнай платы. Першая сустрэча закончылася падпісаннем пратакола разыходжанняў, а далейшыя перагаворы будуць весціся ў прысутнасці арбітра з Міністэрства працы і сацыяльнай палітыкі.

**У Супраслі** пад лозунгам „Там, дзе зелень сустракаецца з блакітам” пачалася **Цыганская мастацкая вёска** — мерапрыемства культурна-адукацыйнага характару. У лекцыях па цыганскай гісторыі і культуры ўдзельнічаюць цыганы з Польшчы, Балгарыі, Эстоніі, Фінляндыі, Францыі, Латвіі, Нямеччыны, Расеі і Венгрыі. Заняткам спадарожнічаюць цыганскія музыка і танцы, а таксама паказ мастацкіх і дакументальных фільмаў.

**У Завадах на рацэ Супрасль адбыўся XVIII Злёт Польскага таварыства прыяцеляў індзейцаў.** Удзельнікі злёту, апранутыя ў традыцыйныя індзейскія уборы, на працягу трох дзён жылі ў вігвамах. Аматары культуры і абычаяў індзейцаў абедзвюх Амерык лічаць сябе экалагічнай арганізацыяй, а за мэту сваёй дзейнасці ставяць захаванне прыроднай і культурнай спадчыны.

**Немка Штэфі Граф** лідзіруе ў рэйтынгу Сусветнай тэніснай асацыяцыі, набраўшы 365,00 ачкоў. Беларуская тэнісістка **Наталля Зверава** набрала 109,17 ачка і апынулася на 9 месцы. Найбольш зарабіла іспанка **Аранча Санчэз Вікарыя** — 1.127.069 долараў ЗША, а Наталля Зверава ў гэтай катэгорыі была чацвёртай і зарабіла 628.146 долараў.

# Праз тыдзень у „Ніве”

- → Успаміны Славаміра Назарука пра першае паломніцтва на Св. Гару Грабарку.
- → Як Беларусь святкавала чацвёртую гадавіну абвяшчэння суверэнітэту.
- → Жара, суша, жніво і пажары.
- → Галка — сябра чалавека, — піша Андрэй Гаўрылюк.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

**Прэзідэнцкая прысяга**

20 ліпеня на сесіі Вярхоўнага Савета нававабраны прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка прынёс прысягу на вернасць беларускаму народу і канстытуцыі, а таксама выступіў з кароткай прамовай. Першым прэзідэнта павіншаваў віцэ-прэм'ер Расеі Аляксандр Шохін, а маршалак Сейма Польшчы Юзэф Алексы, віншуючы А. Лукашэнку, адзначыў, што незалежная Польшча і незалежная Беларусь — добрыя партнёры ў Еўропе. Затым былі прывітанні ад прадстаўнікоў Грузіі, Літвы, Малдовы, Украіны. Ад апазіцыі выступалі лідэр БНФ — Зянон Пазьняк і БСДГ — Алег Трусаў, а прадстаўнік пракамуністычнай большасці дэпутат А. Нятылькін параіў прэзідэнту слухаць усіх, але рашэнні прымаць самастойна. Ён прапанаваў, па прыкладу прэзідэнта Украіны, выдаць указ аб наданні рускай мове роўных правоў з беларускай.

**Новы ўрад**

У другі дзень вышэйзгаданай сесіі прэзідэнт А. Лукашэнка зрабіў даклад аб цяперашняй эканамічна-сацыяльнай сітуацыі ў рэспубліцы і аб шляхах выхаду з крызісу. Пасля прэзідэнт прыняў адстаўку ранейшага Савета Міністраў і прадставіў парламентарыям важнейшыя кандыдатуры ў члены новага ўрада. Новым прэм'ер-міністрам выбраны 46-гадовы эканаміст Міхаіл Чыгір — дагэтуль старшыня праўлення Беларускага акцыянернага камерцыйнага аграпрамысловага банка. Віцэ-прэм'ерамі сталі: Уладзімір Гаркун, Віктар Ганчар, Міхаіл Мясніковіч і Сяргей Лінг. Міністэрскія пасады занялі: Юрый Захарэнка — унутраныя справы, Уладзімір Сянько — замежныя справы, Уладзімір Ягораў — КДБ, Анатоль Кастэнка — абарона, Мікалай Румас — фінансы (прэзідэнт на гэтую пасаду прапанаваў папярэдняга міністра, Сцяпана Янчука, але той адмовіўся). Прапанаваны на старшыню Канстытуцыйнага Суда Дзмітрый Булахаў не набраў патрэбнай колькасці галасоў.

**Заява галоўнага банкіра**

Старшыня Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч заявіў, што пакуль ён знаходзіцца на сваёй пасадзе, аб'яднання грашовых сістэм з Расеяй па схеме прапанаванай Масквой не будзе. Ён сказаў таксама, што ніколі не пойдзе на тое, каб аддаць актывы Нацыянальнага банка ў распараджэнне іншай дзяржавы. Багданкевіч не згодны з тым, каб важнейшыя элементы эканамічнай палітыкі — падаткі, бюджэт, крэдыты — вызначаліся іншай дзяржавай. На яго думку, няма ніякай трагедыі, калі не будзе адзінай валюты. У той жа час Станіслаў Багданкевіч выступае за цесную інтэграцыю з Расеяй.

**Новы музей Багдановіча**

У вёсцы Ракуцёўшчына Маладзечанскага раёна адкрыўся дом-музей Максіма Багдановіча. Ён стане часткай будучага музея запаведніка ў месцах, дзе паэту добра адпачывалася, думалася і пісалася. Аўтар і выканаўца музейнай экспазіцыі, у якой усё адноўлена так, як было ў далёкім 1911 годзе, вядомы сваімі распрацоўкамі літаратурных музеяў у Беларусі мастак Генадзь Чысты.

**„Славянскі базар”**

Упершыню ў рамках Міжнароднага музычнага фестывалю „Славянскі базар” у Віцебску быў адкрыты Міжнародны цэнтр нацыянальных культур, які размясціўся ў сценах Коласаўскага тэатра. Разам з выстаўкамі, продажам і канцэртамі ў цэнтры прайшлі дні культуры Польшчы, Украіны, Балгарыі, Беларусі і Расеі. З нагоды фестывалю ў Віцебску быў адкрыты помнік Уладзіміру Караткевічу.

**З Салігорска ў Японію**

Прэстыжнае запрашэнне прыняць удзел у міжнароднай выстаўцы мастацкіх работ у японскім горадзе Тыёка атрымалі пяцёра юных талентаў салігорскай школы мастацтваў. Яшчэ мінулай восенню дзеці даведаліся, што ў гонар юбілею гарадскога аэрапорта мясцовыя ўлады вырашылі правесці выстаўку на тэму аэракасмічнай тэхнікі і школьнікі загарэліся ідэяй прыняць удзел у міжнародным конкурсе касмічных мастакоў. У выніку дзевяць лепшых карцін юных салігорцаў адправіліся ў краіну ўзыходзячага сонца.

**Брэстаўчане пакутуюць ад засухі**

У спякотныя дні брэстаўчанам не хапае самога неабходнага — вады. З-за рэзкага росту спажывання камунальныя службы горада вымушаны былі скараціць графік яе падачы. У цэнтры горада вада падаецца тройчы ў дзень: раніцай, у абедзенны час і познім вечарам. Адно, што ўлады раяць узрушаным гараджанам — гэта назапасіць вады на цэлы дзень ужо з раніцы, а каб пазбегнуць атручання — ужываць яе толькі ў кіпячоным выглядзе.

**Ельцын — царкоўным старастам**

Менскае радыё паведаміла, што прэзідэнт Расеі Барыс Ельцын абраны ганаровым старастам царквы свяціцеля Ціхана на сваёй радзіме ў сяле Будка. У гэтай царкве Барыс Мікалаевіч быў хрышчаны. Прыхаджане пастанавілі, у выпадку згоды прэзідэнта, устанавіць у царкве шыльду, якая апавяшчала б аб гэтай падзеі. Вернікі вырашылі таксама хадайнічаць перад епіскапам Екацярынбургскім і Верхатурскім асвяціць храм у гонар нябесных заступнікаў прэзідэнта — Барыса і Глеба.

**Замест вінтоўкі — кельня**

Трое маладых людзей з дзесяці тысяч прызваных на вайсковую службы адмовіліся прысягаць Беларусі з-за рэлігійных перакананняў. Баптыстаў гэтым разам не судзілі, а толькі перавялі ў будаўнічыя часці.

# ДАЛЁКАЕ І БЛІЗКАЕ МІНУЛАЕ ГАЙНАЎКІ

Працяг са стар. 1

ящчэ праз пяць год — 10 600.

У 1952 годзе пачалі праводзіць разбудову завода. Пабудавалі сушыльні драўніны, фанерны цэх (у 1959 годзе), склады, а таксама цэх мазаікавага паркету (у 1960 годзе) — першы і адзіны ў краіне. Так рос найбольшы ў Польшчы дрэваапрацоўчы камбінат.

У 1962 годзе ў цэху лесапілення працавала 413 рабочых. Ён выпускаў дошкі, а таксама дылі, шпалы, ліштвы, матэрыялы для вагонабудаўнічай, машынабудаўнічай, авіяцыйнай і іншых прамысловасцей ды яшчэ паўфабрыкаты дзеля далейшай перапрацоўкі ў іншых цэхах. Калі стварылі мэблевы цэх, тады пачалі імпартаваць трапічныя пароды драўніны — чырвонае дрэва і арэх з Афрыкі і з Блізкага Усходу. З часам пачалі вырабляць драўнянастружкавыя пліты.

Дзейнічалі тры вялікія прадпрыемствы, якія мясцовыя жыхары называлі „Тартак", „Хімічна" ды „Гаймаклес". У сямідзесятыя гады да заводаў належалі: водаправодная сетка, два дамы культуры, кіно, стадыён, плавальны басейн і лазня, з якіх карысталі жыхары горада і навакольных вёсак.

Горад пастаянна павялічваецца. У 1961 годзе ў Гайнаўцы пражывала каля трынаццаці тысяч чалавек, у 1968 годзе — 15 тысяч, у 1978 годзе — 19 тысяч і ў 1992 годзе — 24 600 асоб.

ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ

# ПАДПОЛЬНАЕ ЖЫЦЦЁ „НІВЫ"

Ніяк не магу ўцяміць, чаму і хто спіхвае ў падполле зусім, здаецца, бязвінную беларускую прэсу. Кіёскі, у якіх прадаюцца дзесяткі, а мо і сотні розных выданняў, для беларускага друку недаступныя. Здаецца, што няма ніякай афіцыяльнай забароны, каб якаянебудзь законная газета не магла прадавацца ў кіёсках „Руху" або іншых фірм, якія займаюцца продажам перыядычных выданняў.

Паспрабавала я купіць „Ніву" ў кіёску і вось што атрымалася:

**Беласток, чэрвень г.г.** Пытаю ў кіёску на вул. Гаёвай, адказваюць, што няма такой газеты. На вул. Берлінга паведамілі, што прыходзіць адзін экземпляр і забірае яго пастаянны чытач. А на вуліцы Антанюкоўскай такой газеты няма!

**Гайнаўка, чэрвень г.г.** Заглядаю праз шыбу ў кіёск на галоўнай вуліцы горада і „Нівы" не бачу. Маю надзею, што яна ляжыць схаваная дзесьці глыбока. Пытаюся і чую ў адказ: „Już nie ma". Значыць, у Гайнаўцы „Ніву" крыху чытаюць. У кіёску пры выездзе з горада ў напрамку Белавежскай пушчы, які змяшчаецца ў вялікім павільёне, прадавец кажа: „Зараз пабачу, здаецца, што нешта такое ёсць", — і, нагнуўшыся пад полку з парашкамі, выцягае „Ніву".

**У Белавежы** ў чацвер зранку „Ніву" купіць нельга, бо новай яшчэ не прывезлі, а старая „już zapakowana do zwrotu".

**У ліпені я вярнулася ў Варшаву** і вырашыла даведацца, у якіх сталічных кіёсках прадаецца наш тыднёвік (тыя 30 экземпляраў, якія паступаюць у Варшаву). У цэнтралі прадпрыемства „Рух" на вул. Таваровай не хацелі прыняць падпіскі на IV квартал, бо яшчэ зарана, а ў справе інфармацыі пра кіёскі адаслалі мяне ў размеркавальнае аддзяленне на вул. Кербедзя. Там доўга тэлефанавалі і ўрэшце накіравалі на камп'ютэры. Вядома, тэхніка памагла! Аднак усяго сказаць мне не хацелі, а толькі паінфармавалі, пра найбліжэйшы да майго месца пражывання кіёск. Тлумачу ім, што жыву ў квартале Прага-Поўдзень, у ваколіцах Саскай Кэмпы і тады даведваюся, што для ўсёй Прагі (400 тысяч насельніцтва) надзяляюць толькі тры экземпляры „Нівы" для кіёска на Усходнім вакзале. Чаму ж „Ніва" не паступае ў кіёскі бліжэй праваслаўнага сабора, у якім кожную нядзелю збіраюцца беларусы? У вакзальным кіёску сказалі мне, што атрымоўваюць не тры, а толькі адзін экземпляр. На пытанне, чаму „Ніва" не экспануецца ў вітрыне, пачула я ў адказ: „Czy ja wiem? Jakaś dziwna ta gazeta. Rzadko kto pyta o nią".

Паспрабавала я дамаўляцца з кіяскёрамі ў маёй ваколіцы, каб хацелі трымаць для мяне 1—2 экземпляры нашага тыднёвіка. У адным кіёску, які нараілі мне ў размеркавальным аддзяленні, проста аблаялі мяне, у іншым — спачатку сказалі, што дадуць адказ на другі дзень, а потым адмовіліся.

Хадзіла я і ў Клуб міжнароднага друку, што на вул. Маршалкоўскай, але прадаўшчыца здзіўлена адказала, што такой газеты ў іх няма.

**У жніўні еду ў Белавежу.** Там, хаця і з-пад прылаўка, але ўсё ж „Ніву" дастану. А на IV квартал падпіску зраблю не паспею. Такая нявінная газета, а мусіць кагосьці кусае!

ГАЛЕНА АНІШЭЎСКАЯ

**Ад рэдакцыі:** У Беластоку пастаяннай з'явай бывае такая сітуацыя, што ў кіёсках адказваюць, што „Нівы" няма, а пасля ў пратаколах пішуць, што не прадалі ніводнага экземпляра. У кожным амаль кіёску сядзяць, як відаць, таленавітныя, добрасумленныя людзі, якія паважаюць беларусаў.

# АДГУКНІЦЕСЯ, СЯБРЫ КАРЭСПАНДЭНТЫ!

У 27 (1990) нумары „Нівы" ад 3 ліпеня 1994 года быў надрукаваны матэрыял Ганны Кандрацюк „Сярод простых людзей" аб Эдварду Шчасновічу са Шчасновіч, аўтару „Бабскіх фокусаў". Аўтарка піша, што ў Э. Шчасновіча „паэтычная душа, вялікая чалавечая цеплыня, вечна малады дух і лёгкі, небанальны гумар...". Так гаворыцца зараз пра 82-гадовага чалавека. А які ён быў раней?

Са спадаром Эдвардам Шчасновічам я меў прыемнасць пазнаёміцца ў сямідзесятых гадах. Сустрэліся мы ўпершыню ў „Ніве" як карэспандэнты і многія гады былі ў авангардзе нештатных супрацоўнікаў нашага тыднёвіка. Памятаю яго як вясёлага чалавека. І хоць яму тады было пад шэсцьдзесят, ніхто з нас, маладушых, не мог з ім зраўняцца ў гумарыстычных апавяданнях. Толькі Эдмунд Вайсковіч з Гайнаўкі прабаваў з ім сапернічаць.

Ад цёплых, сардэчных карэспандэнцкіх сустрэч — з'ездаў мінула каля двух дзесяткаў гадоў. Кожны з нас пайшоў сваім шляхам, сваёй дарожкай жыцця. Неадночы ўспамінаю сваіх калег па пяру. Дзе яны цяпер? Чым займаюцца?

З некаторымі, напрыклад з Пятром Байко, Мікалаем Панфілюком, Аўрораў, я зноў пачаў сустракацца на старонках „Нівы".

А што з Грышай Марозам, Васілём Петручуком, А. Закройшчыкам, М. Няплохам ды іншымі?

Ці не варта было б наладзіць сустрэчу былых карэспандэнтаў і тых, якія зараз пішуць? На маю думку, такая сустрэча вельмі патрэбная. Сустрэча трох пакаленняў — дзядуляў, бацькоў і ўнукаў! Гэта была б непаўторная нагода аднавіць кантакты. Хто ведае, што здарыцца праз год, мо нават праз месяц?

Памятаецца мне гісторыя з нашым славутым Дзядзькам Квасам. Калі мы сустракаліся на адным з чарговых з'ездаў, ён ужо не змог прыехаць. Сілы яго апускалі. Няхай гісторыя не паўтараецца...

А што на гэта вы, паважаныя калегі? Адгукніцеся на старонках „Нівы".

УЛАДЗІМІР СІДАРУК

# ДОЖАЛІ ЖЫТЫЧКО...

## ЖНІЎНЫЯ ПЕСНІ

Пры жніве спяваліся калісьці розныя песні на сямейныя і бытавыя тэмы. Адметныя іх рысы — гэта працяглась і сум. Толькі калі набліжаўся канец цяжкай працы: акуратна звязаны і пастаўлены ў ляшак апошні сноп, выпалата ды прыбрана „перапёлка", з вуснаў жанцоў ліліся вясёлыя дажыначныя песні. У іх, скрозь жарты і смех, чуецца задавальненне з належна выкананай працы і пажаданні высокага ўраджаю ў наступным годзе.

Жніўныя песні належаць да самых даўніх у вуснай творчасці нашага народа. Свой пачатак яны бяруць недзе ў далёкай мінуўшчыне, калі нашыя продкі сталі займацца земляробствам, а збожжа склала падставу іх існавання.

У песнях перапляталіся матывы нараканняў на цяжкую працу ў жніво разам з пачуццём радасці, што дачакаліся хлеба з новага ўраджаю. Думкі-згадкі луналі таксама вакол спраў міжчалавечых адносін, між іншым дзяўчаты марылі аб хуткім замустве, а замужнія маладзіцы будзілі іх з гэтай казачнай ілюзіі, пяючы пра незайздросную долю жанчыны, бо вядома ж — „замуж выйсці — трэба знаці: позна легчы, рана ўстаці".

Жніўныя песні ж асталіся ў памяці колішніх жанцоў. Не ўсе адышлі ў нябыт. Мо таму варта прыпомніць самыя ірдзістыя, адсвежыць іх у памяці. Зараз жніво і самая лепшая дзеля гэтага нагода.

І яшчэ. Раблю я гэта неяк па заказу. 22 ліпеня гэтага года папрасіла мяне напісаць слоў колькі пра жніўны абрад жыхарка вёскі Падляўкова — Вера Осяк. Яна — пастаянны чытач „Нівы".

ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ

**Дожалі жытычко...**

Дожалі жытычко, до колосочычка,
Но і нажылісе то і нэ маленько,
Хутко мы жалі, сэрпам крывэнькім,
Спіны мы гнулі, цэлымі днямі,
Ручкі томілісе, очкі зліпляліся
Од поту горкого, на сонцю пражоны,
Але тэпэрочка мы барзо радэнькі,
Што маем жыточка
На целу годочок, на целу зімочку,
Зімку морозную,
Мы будзем тешытся
З достатку поўного,
У збожэ засобные.

**Што я ў полю нэ жнеечка**

Што я ў полю нэ жнеечка,
Што за мною нэ жмэнечка?
Дайце мне повозного
Ны старого, ны малого —
Хорошого, молодого.
Вун за мною снопкі звяжэ,
Усю праўду вон мне скажэ,
Снопкі звяжэ і подымэ —
Спаті ляжэ і обымэ,
Снопкі звяжэ, помоцуе,
Спаті ляжэ, поцілуе.

*(песні запісаны ў Плюцічах)*

**Жніўная**

Ні шкадуй пане,
Сіўца-жэрабца,
Едзь па гарэлку
Аж да Крыўца
Плён несем, плён
Кожнаму пану ў двор.
Не шкадуй, пане,
Белага сэра, —
Даст табе пан Бог
Пекнаго сына.
Не шкадуй, пане,
Добраго мёду, —
Даст тваім дочкам
Пан Бог уроду.

*(песня запісана ў вёсцы Бандары)*

**Дажыначныя прыпеўкі**

1

Дажалі жытка, дажалі яркі, —
Пайшлі дадому, як баяркі.

2

Дажалі жытка, ідзем дадому,
А ты, серпіку, збірай салому.

3

А бадай здаровы плён плянаваці,
На прышлы годок дай дачакаці.

*(вёска Тарнопаль)*

1

Дажалі жыто аж да дарогі,
У нашага пана крывыя ногі.
Клён нясём, клён,
нашаму пану ў двор.

2

Дажалі жыто, выгналі ліса,
У нашага пана галоўка лыса.
Клён нясём, клён,
Нашаму пану ў двор.

3

Дажалі жыто аж да граіцы,
Не жалуй, пане, піва шкляніцу.
Клён нясём, клён,
Нашаму пану ў двор.

*(вёска Мастаўляны)*

Падборку зрабіў
ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ

# НА РАДЗІМЕ

Пасля двух гадоў адсутнасці наведаў я сваю родную вёску, Відава. Адтуль цяпер ездзяць у Бельск гарадскія аўтобусы (МПК), але, на жаль, толькі два: адзін — у 7.20, другі — у 15 гадзін. У святочныя дні нават гэтыя аўтобусы не курсуюць. А ў Відаве жывуць і сяляне, і пенсіянеры, якім трэба ў будзённы дзень з'ездзіць у горад у краму або на рынак, каб нешта купіць, а святочным днём — у царкву. Зайшоў я ў Гмінную ўправу і спытаў сп. Эўгенюша Чарвацкага, чаму так ёсць. Ён адказаў, што Управа не мае грошай, каб заплаціць за большую колькасць рэйсаў. Здзіўляе мяне гэта, бо падаткі ў асноўным плацяць гаспадары і пенсіянеры; чаму тады не маюць яны ад гэтага выгады? Яшчэ сп. Чарвацкі сказаў, што ў 24 вёсках Бельскай гміны працуюць водаправоды. У ліпені плануецца здаць у карыстанне водаправоды ў Леўках, Падбеллі, Казлах і Райках, а ў Агародніках, Галадах, Суботцах, Катлах і Белай вада будзе праведзена ў хаты. Таксама ў ліпені пачнецца пракладка водапровода ў Ягуштове, а да канца года — у Локніцы, Зубаве, Пасынках і Трашчотках. У ЗАГСе мне сказалі, што ў першым паўгоддзі г.г. у гміне памерла 250 чалавек, нарадзілася 430, а пажанілася 85 пар.

АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК

# БЕЛАРУСЬ ВЫБРАЛА ПРЭЗІДЭНТА

Другі тур прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі адбыўся 10 ліпеня, у дзень святых зямлі беларускай. Аднак грамадзяне Беларусі на выбарчыя ўчасткі не ішлі ў святочнай атмасферы. Гаспадарка Беларусі толькі што ўваходзіць у самую глыбокую крызісную стадыю, а выбары яшчэ больш ускладнілі сітуацыю. Адзін з прэтэндэнтаў на прэзідэнцкую пасаду, былы прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч выкарыстаў усе магчымасці, якія мае кіраўнік дзяржавы, каб застацца пры ўладзе. Між іншым яго каманда ўчыніла расправу над непаслухмянымі сродкамі масавай інфармацыі, замаразіла цэны на час прэзідэнцкай гонкі, а выбарчую кампанію прэм'ер вёў з будынка Савета Міністраў, у якім змяшчаўся ягоны выбарчы штаб. Аднак прайшоў той час, калі прапарцыянальна да ліку выступленняў па тэлебачанні ўзрастала колькасць аддадзеных галасоў.

Ужо першы тур выбараў паказаў, каму выбаршчыкі аддаюць перавагу. З ліку шасці кандыдатаў толькі двух — лідэр апазіцыйнага Беларускага народнага фронту „Адраджэнне" Зянон Пазьняк і былы старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч — прадстаўлялі незалежніцкую плынь. Астатнія кандыдаты выказваліся за цесныя сувязі Беларусі з Расеяй. Прычым у доказах любові да Масквы імкнуліся перасягнуць адзін аднаго згаданы В. Кебіч і шэф парламенцкай антыкарупцыйнай камісіі Аляксандр Лукашэнка. Яны таксама перайшлі ў другі тур выбараў. Пры нагодзе ў Менску паўсюдна вяліся спекуляцыі, быццам бы Кебічу дакінулі крыху галасоў з усходняй Беларусі, аддадзеных за Лукашэнку, а з заходняй — за Пазьняка. Калі б не гэтае, дык Пазьняк праўдападобна ў выбарах апынуўся б на другім месцы, але таксама праўдападобна і тое, што Лукашэнка выйграў бы выбары ўжо ў першым туры галасавання. Аднак другі тур аказаўся ўсім на руку. Лукашэнка ведаў, што ён і так выйграе выбары, прэм'ер перайшоў у другі тур разлічваючы на нейкі цуд, Пазьняк, будучы гэтым трэцім, з аднаго боку будзе наглядаць як у посткамуністычным лагеры варушаць брудную бялізну, а з другога боку ён разлічваў на магчымасць пазаканстытуцыйных вырашэнняў прэм'ера. Зрэшты, напружанне ў Менску на тыдзень да другога тура пастаянна расло. Міліцыянты пабілі Лукашэнку, калі той хацеў увайсці ў свой дэпутацкі кабінет, схапілі і пабілі фотарэпарцёра праўрадавай газеты „Рэспубліка", які, як адзіны, зрабіў здымкі пабітаму Лукашэнку. Пасля гэтага ўзарвалася бомба, калі ў сваю кватэру ўваходзіў дзяржсакратар па справах бяспекі ва ўрадзе Кебіча Генадзь Данілаў, а яшчэ пазней частымі сталі ананімныя тэлефонныя званкі аб падложаных бомбах пад будынкі радыёвяшчання і тэлебачання,



*Першы прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка.*

дзе, дарэчы, была ўзмоцнена ахова. У гэты перыяд некаторыя ўсур'ёз разлічвалі на магчымасць увядзення прэм'ерам ваеннага становішча, якое спыніла б ход выбарчай махіны. Аднак да гэтага не дайшло, можа і з-за таго, што на такі варыянт не пагадзілася б Масква, бачачы прарасейскую пазіцыю Лукашэнкі. Зрэшты, такія спекуляцыі пацвярджае ў нейкім сэнсе другі тур выбараў, калі прэм'ер атрымаў на 4% галасоў менш, чым у першым туры.

Выбары (80% галасоў) выйграў былы ваенны палітрук, а пазней дырэктар саўгаса Гарадзец на Магілёўшчыне. Яго выбарчае крэда — гэта змаганне з карупцыяй. Зрэшты, менавіта дзякуючы карупцыі Лукашэнка выплыў на шырокія воды. Яго, палаючага антыпатыяй да былога старшыні Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча, камуністычная большасць дэпутатаў выбрала старшынёй антыкарупцыйнай камісіі з адной мэтай — вызваліцца ад Шушкевіча. Лукашэнка з задачай справіўся, але калі заўважыў, што стаў папулярнай асобай, вырашыў кандыдаваць на вышэйшую пасаду ў дзяржаве. Неўзабаве прымкнулі да яго тыя палітыкі, якім не пашанцавала ўвайсці ў каманду Кебіча. Лідэр звязанай з апазіцыяй Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады Алег Трусаў ужо сёння гаворыць аб новай наменклатуры. Архітэктарамі палітыкі Лукашэнкі праўдападобна будуць шэф парламенцкай заканадаўчай камісіі Дзмітрый Булахаў і віцэ-мэр Маладзечна Віктар Ганчар.

Што зменіцца ў Беларусі пасля выбару першага ў гісторыі прэзідэнта? Напэўна хутка павінен быць зменены цэны. Урад Кебіча на працягу чатырох месяцаў года выкарыстаў увесь бюджэт рэспублікі. Інфляцыя дасягнула 50% у месяц. Цэны ў час прэзідэнцкай кампаніі не змяняліся. Лукашэнка падчас перадвыбарчых тэлевізійных спрэчак абяцаў адкрыць беларускім таварам дарогу на расейскі рынак, а таксама забяспечыць пастаўкі таннай расейскай сыравіны. Аднак такое ў цяперашняй гаспадарчай сітуацыі Расеі не магчымае. Эканамісты звязаныя з апазіцыяй прадбачваюць два варыянты развіцця найбліжэйшай сітуацыі: 1) гіперінфляцыя і талоны на ўсе асноўныя прадукты пры строгім умяшанні дзяржавы ў эканоміку, 2) Лукашэнка, пасля знеахвочвання да Расеі, якой не пад сілу будзе фінансаваць Беларусь, стварыць урад нацыянальнага адзінства, у якім вядучую ролю адыгрывалі б прадстаўнікі апазіцыі ды пачне весці палітыку адкрыцця Беларусі на Захад. Характар Лукашэнкі дазволіць яму прымяніць абодва вырашэнні сумесна.

Тое, што Беларусь патрабуе змен, ведаюць усе. Выбар Лукашэнкі — гэта адказ на палітыку застою, якую праводзіў Кебіч. Чаму, аднак, людзі галасавалі за палітыка, які не даў рэцэпта на выхад з крызісу? Лідэр Беларускага народнага фронту Зянон Пазьняк тлумачыць гэтае крызісам посткамуністычнага грамадства з аднаго боку і цывілізацыйным крызісам сучаснага свету з другога. Менавіта таму расейцы галасавалі за Жырыноўскага, а італьянцы выбралі ў парламент прастытутку Чычыяліну.

**УЛАДЗІМІР ПАЦ**

# ГЕАПАЛІТЫКА ПРАВАСЛАЎЯ

Вучоныя палітолагі, якія на момант аслупянелі, наглядаючы падзенне савецкай імперыі і выбух нацыяналізмаў, чаго ніводзін з іх не прадбачыў, паволі „парадкуюць" наш няўладжаны свет, прынамсі ў тэорыі.

Сусветнае прызнанне набывае тэорыя, што найбольшая пагроза ўзнікнення канфліктаў магчымая на сумежжы цывілізацый. Цывілізацыі вызначаюцца прытым вельмі проста, паводле рэлігійнага прынцыпу. Тым самым рэлігія, якая раней, здавалася, страціла сваё значэнне, вяртаецца як самы важны фактар палітыкі ў сучасным свеце. На жаль, ніхто не робіцца ад гэтага лепшым: усе збіраюцца на вайну і просяць свайго Бога аб перамозе над няверными.

Тэорыя існавання цывілізацый вельмі старая, але пад уплывам сусветнага змагання з камунізмам крыху прызабытая. Навейшую тэорыю ад папярэдніх быццам бы адрознівае падкрэсліванне варагавання цывілізацый. Як свет светам, мусульмане ваявалі з хрысціянамі, а сярод гэтых жа хрысціян каталікі не любілі праваслаўных, ды ўзаемна. Але не менш зацята ваявалі мусульмане з мусульманамі, каталікі з каталікамі і г.д. Цяпер быццам бы ўнутры цывілізацыйных лагераў канфлікты павінны сціхнуць і ўся энергія накіруецца навонкі. Прынамсі ў тэорыі.

Так ці інакш цывілізацыі, відавочна, існуюць і дарма траціць час на тлумачэнне гэтага факта. Мой улюбёны гісторык, Леў Гумілёў, бачыць тут, між іншым, касмічную радыяцыю, і няхай яму будзе.

Паводле таго ж Гумілёва, згоднае сужыццё, напрыклад, праваслаўных і каталікаў немагчымае, а каталікі адчуваюць большую сімпатыю да мусульман. Як ні дзіўна, гэтая тэорыя апраўдала сябе ў Босніі, дзе каталікі дагаварыліся з мусульманамі супраць сваіх праваслаўных братоў у веры хрысціянскай.

Менавіта зыходзячы з сітуацыі ў Босніі, французскі вучоны Франсуа Туал прыдумаў тэорыю „геапалітыкі праваслаўя". Паводле яго, ствараецца аграмадны і экспансіўны блок праваслаўных краін: Расеі, Сербіі, Грэцыі і Румыніі, абапёрты на страху перад каталіцызмам і ісламам. Аўтар разводзіцца прытым над амаль выключнай роляй Праваслаўнай царквы ў стварэнні сучасных нацый на Балканах.

Французскі вучоны забываецца пры нагодзе, што дакладна тое самае можна сказаць адносна ролі Каталіцкай царквы ва ўзнікненні харвацкай нацыі, а таксама адносна ісламу і славянскіх му-

☞ *Працяг на стар. 9*

# РАЗВІТАННЕ З МІФАМ АБ ТАЛЕРАНТНАСЦІ БЕЛАРУСАЎ

## 4. Часы Вялікага княства Літоўскага

Пашукаем сляды талерантнасці ў часах Вялікага княства Літоўскага (ВКЛ). Менавіта гэты час у гісторыі беларусаў некаторыя навукоўцы звязваюць з узнікненнем нашай талерантнасці.

Я пачну з татар. Па-першае, славутыя татары хоць і рабілі свае апусташальныя набегі на Літву, але ніколі не змаглі дамагчыся ад яе залежнасці і ніколі не бралі з нас даніны, як гэта яны рабілі ў дачыненні да Масковіі, а дзе яны непадзельна гаспадарылі некалькі стагоддзяў. Гэтыя факты сведчаць аб тым самым спрадвечным імкненні нашых продкаў да незалежнасці, што згадвалася намі раней, сведчаць аб тым, што яны маглі і могуць даваць адпор нашым ворагам. .

Наступны перыяд. XV і XVI стагоддзі. Залаты век нашай дзяржавы, час росквіту культуры, навукі, рамёстваў і ваеннай моцы. Узгадаем для прыкладу перамогу аб'яднанага войска ВКЛ і Польшчы над крыжакамі ў бітве пад Грунвальдам. Паводле Кастуся Тарасава, Вялікае княства Літоўскае выставіла 40 харугваў, з якіх падаўляючая большасць была з беларускіх гарадоў. Са жмудскіх харугваў вядомыя толькі медніцкая, троцкая і ковенская. Была, дарэчы, там і татарская конніца (каля 5 000 чалавек), але яна была на службе ў нашых князёў.

Вынікі Грунвальдскай бітвы і многіх іншых падзеяў нашай вайсковай гісторыі тых часоў сведчаць аб тым, што нашыя воі былі моцнымі і дужымі людзьмі і мелі зусім не абыякавыя характары і паводзіны. Яны маглі пастаяць за сваю Радзіму і на працягу некалькіх стагоддзяў прадстаўлялі магутнейшую дзяржаву ў Еўропе.

Нарэшце, галоўны аргумент тэорыі талерантнасці, вытокі якога шукаюць у ВКЛ. Звычайна гавораць, што ў ВКЛ суіснавала мірна шмат нацый: гэта маўляў, і ёсць прыклад талерантнасці. Але прабачце, гісторыя мае шмат прыкладаў таго, калі аб'ядноўваліся розныя землі, розныя народы ў адну больш моцную дзяржаву па той ці іншай неабходнасці — у даным выпадку аб'ядноўваліся розныя народы, каб лепш бараніцца ад агульнага ворага — крыжакоў ды маскоўцаў. І талерантнасць тут ні пры чым. Такіх шматнацыянальных дзяржаў было нямала — і Рымская імперыя, і Візантыйская, і іншыя ўтварэнні ад старажытнасці да нашых часоў.

Звернем таксама ўвагу і на тое, што ў часы сярэднявечча грамадства дзялілася не па нацыянальнай прыкмеце. Галоўнай лініяй падзелу было веравызнанне, якое і з'яўлялася галоўнай характарыстыкай як асобнага чалавека, так і ўсяго грамадства. Менавіта веравызнанне мела самы непасрэдны ўплыў на знешнюю і ўнутраную палітыку дзяржавы.

У ВКЛ да XVI стагоддзя суіснавалі розныя хрысціянскія канфесіі — праваслаўная, каталіцкая, кальвініцкая... Жылі ў нас мусульмане — татары, ужо трывала аселі да таго часу яўрэі і адбудавалі сабе сінагогі. Менавіта вось гэты факт суіснавання мноства рэлігійных канфесій у ВКЛ часцей за ўсё прыцягваецца для абгрунтавання міфа аб талерантнасці беларусаў. Але заўважце наступнае: XVI стагоддзе — гэта эпоха Рэнесансу ў Еўропе, гэта ўздым Рэфармацыі, перыяд ломкі старых стэрэатыпаў і стварэння новых ідэй і канцэпцый. І ў Беларусі, і ў Францыі, і ў іншых еўрапейскіх дзяржавах тады суіснавалі розныя рэлігійныя плыні. Такое становішча шмат дзе захавалася да нашых дзён. Так, у Нямеччыне зараз — 48% католікаў і 46% пратэстантаў. Тое ж, прыкладам, у Швейцарыі, Аўстрыі... Але ніхто не называе немцаў ці швейцарцаў „талерантным" народам. Талерантныя людзі ёсць у кожнай з гэтых нацый. І гэта, хутчэй, рыса тэмпераменту. Шматканфесійнасць у ВКЛ сведчыць не аб нейкай, прыцягнутай за вушы талерантнасці тамтэйшых жыхароў, а аб тым, што ВКЛ было нармальнай развітай еўрапейскай дзяржавай.

Зусім іншае становішча, чым у ВКЛ, было ў Маскоўскай дзяржаве. Татары не толькі бралі даніну з раздробленых рускіх княстваў. Яны ў значнай ступені асіміляваліся з мясцовым славянскім насельніцтвам. Вынікі гэтага можна і зараз бачыць у рысах рускіх. І не толькі ў рысах, татары ўнеслі сваю ментальнасць, свой лад жыцця, які характарызуецца, як і ва ўсіх усходніх краінах, жорсткай іерархіяй у грамадстве, неабмежаванай уладай адзінага чалавека — манарха (хана, султана і т.п.). Спалучэнне гэтай усходняй ментальнасці з адзінай рэлігійнай канфесіяй у Масковіі тых часоў, дало ў выніку значна адметную ад еўрапейскага тыпу дзяржаву ўсходняга ўзору, у якой узаемаадносіны будуюцца на прынцыпах далёкіх ад дэмакратыі, у якой не цэрпяць іншадумства і ніякай іншай, акрамя праваслаўя, веры.

*(працяг будзе)*

**АНАТОЛЬ АСТАПЕНКА,**
**Менск**

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ
№ 415
Рэдактар: Сакрат Яновіч

*БАРЫС РУСКО*

## З паштоўкі

1

Лінія скал у шыбе падману.
Ї толькі плаўнікаў шолах.
Ї поту глыба з тушы зямлі.
Ї ўдар раптоўны з акружнасці кола.
Ї ўпала пячаць з вуснаў маўчання.
А вір паветра мышцы цягне.
А хмару бездань паглынула.
А ў чорнай пашчы агонь скача.
А свішчуць саксафоны неба.
А ручаі мыюць барозны.
А ў вясёлкі доля ўдавіна.
Усё выявіла птушка поўдня.
Ї няма следу.
Ля ног магутнага, як кантынент,
Абарыгена
на камені ляжыць бумеранг.

2

Голас заклікае Алаха.
А пясок сухі, як косць муміі.
А паветра ссе пот з паўзучых прывідаў.
А толькі міраж вуснаводны.
За Пірамідай
у сваім логаве
сонца —
не перасцерагаючы перасцерагае,
не пагражаючы пагражае,
не палячы паліць.
У спрадвечнай студні забіў фантан.
А тэрміт побач.
А зямля ззелянела.
А вярблюд праз іголкавае прайшоў вуха.
У бедуіна сухога шмат часу
і вочы вялікія, месяцавы,
і рукі, як сцёблы.
Жыве і памірае, як пальма,
з няўтольнай смагай.

3

Вялікую Раку піранья сячэ на стужкі.
А мора ўплятае іх у хвалі.
А дрэва ў карэнне.
А вогнішча палае.
А стрэлы трапныя.
Джунглі птушка сячэ на палоскі.
А неба ўшпіляе іх у аблокі.
А вясёлка ў кветкі.
А вочы бачаць сонца.
А стрэлы трапныя.
Крыж узараў зямлю.
А джунглі пурпурныя.
А ў індзейца маўклівая памяць.

4

Тлумна ідуць на сустрэчу
пад столь неба,
пад парасон гукаў,
пад крылы слова.
А горы на каленях.
А звяры малыя.
А манастыр у мальбе.
Тут блізка Усявышні.
Ї лама душу вядзе.
А душа вяртаецца ў цела.
Ї лама ведае Лад.
А Лад спарадзіў зямлю.
У ламы пільнае вока.
Ї ўсе яго слухаюць.
Ї маюць чыстыя рукі.

5

Белы алень трасе грывай — мяцеліца.
Ї ноч бясконцая.
А зорка Палярная побач.
А мароз раздае пацалункі.
А язык стыне.
Ї няма слоў.
Ї толькі енкнулі сані.
А груда жыцця, як крэсіва цвёрдая,
б'е па аленю і па Homo,
агонь высякае з крэменю.

6

Бог зляпіў пінгвіна са снегу.
А бераг яго доўгі.
А паша багатая.
А ворага выгналі.
Ї гэтага досыць.
Паштоўку схаваў я, бо слёзы былі б.
Ї ночы бяссонныя.
Ї гукі бубна.
Ї крык аб ратацыі.
А суша спее паволі і не кліча ў госці.

*МІХАСЬ АНДРАСЮК*

## Вера

Дзед Антон цярпеў сваю старасць ціха і спакойна. Тым болей не лез абцэсам у вочы ўсякай уладзе ані суседзям. Ведаў, відаць, што яшчэ нікому такое дабром не скончылася. У гэткай піханіне лёгка дастаць па булаве... А ці верыў дзед Антон у нешта вечнае? Верыў, калі трэба было. Ён без патрэбы анічога лішняга не рабіў, нават не верыў.

Вера, аднак, сапраўдная і мацавітая з'явілася ў дзеда неяк у пачатку — так званых — новых часоў. Пагаворваюць, што прыйшла яна да яго ад нейкага пэгээру, які захілеў ад радаснае свабоды. Пагаворваюць, таксама, што прывалаклася яна да яго з беластоцкае фабрыкі, якая ўсё кляпае непатрэбную прадукцыю, бо барадатыя рабацягі ў ёй перасталі верыць не толькі ў банкруцтва фірмы, але ўвогуле ў што-небудзь і каму-небудзь. Мне думаецца, усё ж, што вера ў дзеда Антона не іначай як пэгээрскага паходжання. Фабрычную ж і бізуном не прыгнаць у вёску, а гэтая вера вось сама прыліпла да старога, без мусу і прымусу.

Адбыўся цуд: маленькая вера стала вялікаю Вераю, якая пачала спаць з дзедам Антонам, як кажуць жартаўнікі, ціха і дружна. Гэты асаблівы сімбіёз маладосці і старасці ўзяў і распаўся адначы ночы, калі кумпястая Вера прыцягнула на падворышча нейкую Гару. Ї хоць Антон не раз чуў прымаўку пра веру, што варочае горы, усё-такі аж гэткага, яшчэ аднаго, цуду ён у сябе не спадзяваўся. Невялікая ў першую шапаніну гара, вядома, хутка вырасла менавіта ў Гару, каб не сказаць: Гарышча.

Дзед змікіціў, што Гару ён не адужае. Нейкі час была ў яго спадзеўка на якогасьці Сізіфа, што заеўся швэндацца па вёсцы ды ваколіцы, цвердзячы ўсім людзям, што Гара гэтая — ягоная ўласнасць, але забраць яе не забраў.

Бяда, зрэшты, не ў тым. Гара сама знікала-прападала, то зноў варочалася, як бы яна тут век векавала. Антону засталося адно: пагадзіцца з яе відавокам ды перастаць бачыць Гару, як перастаў бачыць-прыкмячаць усенька іншае, даўно агледжанае і нічым ужо не цікавае.

Што было рабіць? Зажылі ўтраіх — Антон, Вера і тая Гара.

*ГАЛЕНА АНІШЭЎСКАЯ*

## Вішня

Вішанька родная ў белым адзенні,
Маладухаю сёння прыкінулась ты,
Пчолкі-дружкі наўкола танцуюць;
Забучэлі нат два чмялі.

Бачу, вяселле сёння спраўляеш —
Ветрык іграе вясельны марш;
Неўзабаве ўжо зацяжарыш,
Няхай будзе табе „у добры час".

Летняй раніцай налюцца
Чырванню твае плады.
З жоўтым гліняным збанам
Прыйду да цябе тады.

*Найлепшыя пажаданні ЯНКУ ЦЕЛУШЭЦКАМУ, у ягонае пяцідзесяцігоддзе!*

*Сябры з "Белавежы".*



Рыс. Міколы Давідзюка

*ВЕСЛАЎ КАЗАНЭЦКІ*

**Аповесць аб сярэбраных скронях**

Маё цела,
мой блазен,
танцуе і смяецца.
Мае вочы,
суддзі ў парыках веек,
глядзяць сурова
з-пад павек.
Мае думкі
на курыных лапках
кружаць вакол куратніка.
А ў куратніку прытаўся ліс
і ўпэўнена чакае шэрай гадзіны.

**Збудаваў я сцены і вокны**

Ужо не тузаецца мая нецярплівасць.
Дыхае ціха, ціхутка.
Будую дом з часцінак сполаху.
Збудаваў вокны і сцены,
і дзверы масіўныя, крэпасныя.
Магу ўжо спаць спакойна.
Мой сполах мае дах над галавою.

*Пераклаў Віктар Швед*

*САКРАТ ЯНОВІЧ*

## Коліна чарка

Добры хлопец Коля хліснуў гарэлкі, калі, набыўшыся ў Амерыцы, прыпёрся назад. От, са страху бадай, чым ад радасці. Вельмі магчыма, зрэшты, што ад усяго пакрысе... Бо, жонка жонкаю, але трэба ж было яму аднавіць штат у фірме. Кампанійцы, ушчаперыўшыся за посткамуністычны капіталізм, схаладнелі тым часам, бы нейкія еўнухі. Коля зразумеў, што гэта такое чаўпецца: вітальныя абдымкі цяпер нічога не значаць, не больш за фальклор на сцэне. Сялянскі ў ім інстынкт самазахавання ды практыка багатырраватых бацькоў падказвалі: трэба тут самагонкі! Дастаў бы яе ў лесуноў або ў падбеластоцкіх дэгенератаў, не зважаючы нават на рызыку сесці ў турму. На шчасце, ажно гэткая адчайнасць аказалася лішняй.

Коля пасучыў быў кароткімі нагамі плебея ў прымітыўны гандаль-дом з камічнай шыльдаю ДЭЛІКАТЭСЫ. Грудзістая прадаўшчыца там, беспамылкова пазнаўшы пана па халявах, наставіла на прылавак перад Колем батарэю снарадападобных бутлягаў з дэнатурна-сінімі галоўкамі: танна і многа. Адгадала ж яна, каго ён участуе. Фундацыя каньякоў такім — гэта смешнае непаразуменне: шклянкамі павыпіваюць і яшчэ абгаворацць, што блашчыцамі смярдзіць...

П'янку інаўгураваў былы Колін бос, кульнуўшы першыя сто грамаў градуснае атруты. Па тым, як вырачыўся ён пасля і спападна гомзаў закусь, Коля ўцяміў, што справы пойдуць на лад. Але гэта чамусьці пугнула дамоў службовых бабаў... Таксама і слабакоў неўзабаўку. Засталася эліта і ён, Коля. Ні спачатку ані потым не даходзіла да ягоных мазгоў сціпшная тая драматычнасць узніклай яму сітуацыі аднаго на траіх. Даверліва засеў насупраць здаравезных варацілаў. Бяда, бы павук са столі, павісла над ім.

Не піў мала, каб не абразіць уфундаваных. Ратаваць сваё хілае здароўе выпашыў, аднак жа, безнадзейна позна. Самы бязвінны спосаб дзеля гэтага — выйсці ў туалет, што не выклікае падазрэнняў у надуманасці змыцца. Так і ўчыніў. Паспеў у апошні момант: пачаліся аслабляльныя адрыжкі... Памятаў яшчэ, што хапіла яму мацаты растапырыцца над умывальнікам.

Закруцілася ўсенька ў галаве каляровай кінастужкай падарожнага фільма пра звяроў Афрыкі: рыкалі ільвы, трубіў слон, гагаталі гіены, бубнілі там-тамы, нешта свістала і гікам гікала... У рэшце рэшт угледзеў над сабою таўстазадую негрыцянку ў раскалыханай спадніцы, якая спаквала прыпадобнілася да начное старажоўкі Фені з яе смешна-польскім крыкам „A co pan zapaskudziўся, бы дзеўка ў першую цёнжу?!"

Гэта страшэнна паўплывала на Коліка! Нагадаўся яму нью-йоркскі Гарлем, адкуль гопаў сярэдзінаю стрыт-асфальту, шчасліва ашаламіўшы пляскатых чарнюхоў расейскімі мацюгамі. Асцерагаўся з гэтым нумарам на задворках польскага Грын-поінта, дзе анёл розуму зліатаваўся над Колем, шапнуўшы яму паабяцаць тутэйшым панажоўшчыкам уз'яднаць Беларусь з Польшчай... Дурні паверылі і Колька застаўся ў жывых.

Элітная тройца знепакоілася невяртаннем Колічка. Кіруючыся на гармідар у дамскім, чамусьці, туалеце, не памыліліся: убачылі Колю на падлозе, над ім жа сакатлівую бабу і смяшлівую, аднекуль паненку. Сам ён рабіў уражанне ліцэіста-пераростка, якога толькі што экстэрнам школілі на мужчыну... Колька знямогла засынаў і яму яны ляскалі па шчоках, каб падымаўся, аднак, ды пайшоў сабе ўжо да мамы, да таты. Прыгледзеўшыся пацверазелымі вачыма да букету ружаў на Колінай кашулі, эліта апазнала накрушнянае ім нястрымна французскае „салятэ", якім частаваліся пад чарку... Тыя агледзіны не маглі закончыцца іначай, як тым, што геолагі называюць вулканічным эфектам або ажываннем кратэраў.

Усе чацвёра затым апынуліся ў шпіталі, у заразнай палаце. Іх усяляк абследавалі і яшчэ звазілі верталётам у цэнтр рэдкіх хваробаў, дапусціўшы дыягназ інфекцыі сюды неразгаданае эпідэміі, што ўзялася ад інтымнага кантакту чалавека з асаблівым гатункам афрыканскай малпы ў кангалезскіх джунглях. У гэтым вінаваты быў зноў Колька: ён непатрэбна прамовіўся перад тымі канаваламі, што выязджаў быў з Еўропы ды братаўся, хоць і няўдала, з патомнымі чорнага кантынента...

Пасля ўсяго гэтага эліта сцяміла, што з Коленькам кашы не наварыш і бяспечней будзе адвязацца ад яго.

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# НАШЫ НАД ВОЗЕРАМ НАРАЧ

Беларускія дзеці з Беласточчыны адпачывалі ў летніку „Зубраня” над Нараччу ад 23 чэрвеня па 13 ліпеня. Было іх 17 асоб, найбольш з Гарадка (6 асоб), на жаль, толькі адна з Бельска, з Трасцянкі, Навасад, Дубіноў, Гайнаўкі, Беластока. Шкада, што не паехалі дзеці з Нарвы і Гданьска і ўся бельская група.

Адпачынак арганізавалі Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына” (вялікі дзякуй спадарыням Ганне Сурмач і Ніне Петуховай!) і Камісія культуры і асветы Беларускага саюза ў Польшчы (прывітанне спадарам Віктару Стахвюку і Пятру Круку!). Дзеці вельмі задаволены адпачынкам — стаяла цудоўнае надвор'е, прыгожая ваколіца, смачная, хаця крыху затлустая ежа... Усе хацелі б паехаць і ў наступным годзе.



*Мы былі сёлета над Нараччу.* Фота В. Стахвюка

Дзеці далі канцэрт, Кася Сегень з Бельска была салісткай. Навучылі іншых дзяцей песню-гімн пра возера Нарач.

Усе дзеці, якія вывучаюць на Беласточчыне беларускую мову, удзельнічаюць у конкурсах, пішуць у „Зорку” маюць шанц паехаць туды праз год.

(лук)

Кладоўка здароўя

# КРАПІВА ДВУХДОМНАЯ

На Беларусі расце ўсюды. Цвіце з чэрвеня па восень. Змяшчае ў сабе вітаміны С, К, групы В, мурашыную і іншыя кіслоты, мінеральныя рэчывы. Бялку ў ёй не меней, чым у фасолі, бобе, гароху, ёсць тлушчы, вугляводы і г.д. З ранняй вясны да глыбокай восені крапіва можа быць штодзённай пажыўнай дабаўкай да ежы. З яе гатуюць салаты, вінегрэты, першыя і другія стравы. Перад ужываннем лісце і маладыя парасткі бланшыруюць у падсоленай вадзе 25 хвілін або трымаюць у сталовым 9-працэнтным воцаце 2—3 хвіліны, пасля прамываюць халоднай вадой.

**Прыправа.** 50 г парашку з высушанага лісця крапівы змешваюць з 40 г кмену, 30 г кропу, 20 г баршчэўніку, 10 г медуніцы, 20 г трыпутніку.

**Масла крапіўнае.** Лісце ці парашок расціраюць са сметанковым маслам. Выкарыстоўваюць да бутэрбродаў, запраўкі мучных, крупяных страў.

**Салаты** гатуюць з гароднінай, кіслай капустай, дзьмухаўцам і лебядой, мясам, яйкамі і г.д. Для салатаў дастаткова 75—100 г крапівы. Парашок і сок крапівы дадаюць у цеста, начынкі, мармелад, варэнне, джэм, фарш, напіткі.

У народнай медыцыне крапіву выкарыстоўваюць спрадвеку. Яе ўжываецца як бактэрыцыдны, мачагонны, жаўцягонны сродак, для загойвання ран. Яна паляпшае абмен рэчываў, работу сэрца, органаў стрававання, састаў крыві, павялічвае колькасць малака ў кормячых маці.

**Настой.** 25 г лісця заліць 250 мл кіпеню, настойваць 4 гадзіны. Піць па сталовай лыжцы 4—6 разоў на дзень пры хваробах нырак, печані, страўніка, лёгкіх, атэрасклерозе, малакроўі.

Для лепшага росту валасоў уціраюць у скуру галавы 2 разы на тыдні. Крапіўны сок п'юць пры ўнутраным крывацёку. Прамываюць гнойныя раны, болькі, прышчы.

**Адвар.** 20 г каранёў крапівы варыць у 200 мл цукровага сіропу на працягу 15 хвілін. Піць па сталовай лыжцы 5—6 разоў на дзень пры жоўце- і мочакаменнай хваробах, унутраным крывацёку, гастрытах, калітах.

Нарыхтоўваюць лісце ў час квітнення, карані — восенню. Тэрмін ужывання лісця 2 гады, каранёў — 3 гады.

Н. АЛЯКСЕЙЧЫК

# Вясёлы куточак

Прачытаўшы кнігу аб індзейцах, сын пытае ў бацькі:

— А чаму, заключаючы мір, індзейцы выкурвалі люльку міру?

— Таму, што пасля двух-трох зацяжак у іх ужо не заставалася сілы ваяваць.

* * *

Маленькі Пятрусь гаворыць маленькай Ані:

— Давай гуляць у вайну.

— А як гэта рабіць?

— Вельмі проста. Я буду генералам, ты будзеш машыністкай, і я буду дыктаваць табе свае мемуары.

* * *

— Дзядуля, чаму гэта ў вас такія маленькія вусы?

— Слабы ўжо, дык няма сілы большыя насіць.

* * *

Настаўнік звяртаецца да вучняў:

—Хто можа расказаць што-небудзь цікавае пра птушак, якія ўмеюць гаварыць па чалавечай мове?

Пасля напружанага маўчання адзін вучань устае і кажа:

— У майго калегі ёсць сава, якая не толькі ўмее размаўляць па-чалавечы, а яшчэ можа прадбачваць. Нядаўна я спытаў тую саву: „Будзе ў мяне па арыфметыцы двойка?” Сава неадкладна адказала: „Угу, угу!”. На другі дзень я сапраўды атрымаў двойку.

* * *

Маленькая дзяўчынка ідзе з маці па вуліцы. Насустрач ім — бульдог.

— Мама, — гаворыць дзяўчынка, — як ён падобны на дзядзю Альфрэда!

— Т-сс. Як табе не сорамна!

— Ты думаеш, сабачка пачуў?

* * *

— Юлечка, колькі табе годзікаў?

— Тры з паловаю.

— Ты добрая, разумная дзяўчынка?

— Але.

— Адкуль ты пра гэта ведаеш?

— Я ж сама навучылася.

* * *

— Марылька, а дзе нашы крэслы? — спытала маці.

— У цёткі Люсі дзень нараджэння, яны пайшлі да яе ў госці.

*Падборку зрабіў*
ЯНКА ЛЯЎКОЎСКІ

*НІНА ГАЛІНОЎСКАЯ*

# ЛІЧЫЛКІ

**ВЯЛІКАЯ СЯМЕЙКА**

На дах прыляцеў верабейка
З вялікай сваёю сямейкай:
Дзядуля, бабуля,
Дачушка, зяцёк,
Пляменнік, унучак,
Кума, куманёк.

**МАЯ ГРАДКА**

Я на дачы маю градку.
Даглядаю сам яе,
Раскажу вам па парадку,
Што на ёй цвіце-расце:
Мак, часнок, гарох, салата,
Па баках — укроп і мята.

**БУДУ ШАФЁРАМ**

Наша сяло каля самай шашы.
Многа я ведаю марак машын:
„Масквіч”, „Запарожац”, „КамАЗ”,
„Пабеда”, „Калхіда”, „УАЗ”,
„Волга”, „Рафік” і „ЛАЗ”,
„Чайка”, „Шкода” і „МАЗ”,
„Лада”, „Татра” і „КрАЗ”,
„Ніва”, „Варшава”, „ВАЗ”,
„ГАЗ”, „Фіат” і „Мерседэс”...
Я вялікі інтарэс
Маю змалку да машын.
Тата мне гаворыць:
— Сын,
Бачу, хочаш стаць шафёрам.
Буду браць у рэйсы скора.

**ГАРОДНІНА І САДАВІНА**

Гародніна
і садавіна
з восеньскага
лімузіна:
грушы, морква,
кабачкі,
слівы, бручка,
буракі,
бульба, яблыкі,
хурма,
гарбузы.
І ўсё — дарма.
Дзеці, вы сказаць
павінны:
што — гародніна,
што — садавіна?

**ЯБЛЫКІ**

У кошыку яблыкі
розных сартоў.
Я назаву іх.
Ты слухаць гатоў?
Пепін, шафран,
баравінка,
цітаўка, крымка,
пуцінка,
цыганка, антонаўка,
белы наліў,
штрыфель, ранет.
А вось гэты забыў.
Мама на яблык
зірнула:
— Каштэлі.
Дзеці з ахвотаю
яблыкі елі.

**РАЗ, ДВА, ТРЫ...**

Раз, два, тры —
Бяжым з гары.
Чатыры, пяць —
Спрабуй дагнаць.
Шэсць, сем, восем —
Бегчы просім.
Дзевяць, дзесяць —
Хто нас стрэціць?

**У ТРАМВАІ**

Ранкам едуць у трамваі
Два мядзведзі і два заі,
Воўк, сабака, бегемот,
Вожык, слон, ліса і кот.
Я пытаюся ў сяброў:
— Колькі ехала звяроў?

9

## КАЛІ ГЭТА ЎСЁ АДБЫВАЛАСЯ

Цёплы і сонечны, сунічны і канюшынны ходзіць па лясах і сенажацях чэрвень.

Асаджваю тужэй пілотку на галаве, каб часам не здзьмула за борт з грузавіка, машыны-паўтарачкі.

Няўжо, думаецца, мы цэлыя тры гады не бачыліся са сваёю зямлёю! За адзін момант я ўявіў сваё нядоўгае жыццё на вайне. Пажары, што гасіў у Маскве пасля першых бамбёжак. Выблiскі ад залпаў „кацюш" пад Катлубанню, ад якіх па стэпе беглі шасціпалыя кінцюры агню, падпальваючы небакрай і ўсю прастору за небакраем. Непрытомнасць пасля мінамётнага налёту, калі, засыпаны зямлёю, не мог паварушыцца, шпіталь у Іванаве.

Нарэшце такі самая страшная на чалавечай памяці вайна выкінута з нашай зямлі, дабіваецца на той, дзе пачыналася.

Бяжыць па гравійцы грузавічок, і ў ім — дзесятак паспешна адкліканых з фронту камандзіраў. Не, ужо не камандзіраў! Заўтра мы станем на сваю абвыклую работу, што рабілі да вайны ў даследчых установах, ліцейных цэхах і канструктарскіх бюро.

Бяжыць грузавічок, пасажыры прыстылі вачыма да шчодрых чэрвеньскіх краявідаў.

Дарога загінаецца ў лес, і на завароце — некалькі аўтаматных чэргаў: спачатку насустрач, а зытым услед... Грузавічок ірвануўся наперад, матор загуў, сапучы і чхаючы... Праскочылі...

Тут быў „кацёл", так у вайну называлі тугое і надзейнае акружэнне варожых часцей, адкуль адна дарога — у палон. А не хочучь, няхай наракаюць на сябе.

Відаць, нейкая жменя варожых салдатаў вcase слізнула з абцугоў і не кідае зброі — мерыцца пралезці за лінію фронту.

Грузавічок — не прымаць жа бою, немаведама, якая сіла з таго боку, — стараецца на ўсе лапаткі. Нарэшце стаў — хуткасць перавысіла яго ветэранскія магчымасці.

Былыя камандзіры саскокваюць цераз борт. Перакур. Шафёр, як звычайна, калупаецца ў маторы. Няшмат нам паказала дарога, але і тое цікава.

Не паспеў асесці парахавы дым, а на недатлелыя галавешкі родных сяліб збягаюцца, сыходзяцца, з'язджаюцца людзі, колішнія жыхары. Хапаюцца за працу, не абтросшы пылу горкай і гарачай дарогі бежанства і партызанства.

Перш за ўсё агорваюць жытло, хоць якое, з жэрдак і аполкаў, абы не мачыў дождж і не завявала снегам, раздабываюць ежу, прысяваюць, колькі стане насення, кавалкі зямлі позняю ярынаю, хоць курам пасьпаць.

Твары ў пасажыраў грузавічка святлеюць: праз кроў, праз бяду, попел, друз прабіваюцца сцяблінкі жыцця.

Уцешна і смутна — магло ж гэтага няшчасця і не быць! Дый наперадзе не аладкі з мёдам чакаюць. Нялёгка будзе, можа, яшчэ цяжэй, як на фронце.

З нізіны патыхае смурод, робіцца млосна, і кружыцца галава: не ўсіх забітых паспелі пахаваць, наступленне разгортвалася шпарка. Не было часу і зброю сабраць: расхінеш куст — карабін ці аўтамат з патронамі.

Непадалёку ад дарогі брызентавыя палаткі, у іх пакіданы шынялі, бялізна, мундзіры. Доле — аж бела ад газет, адозваў, складзеных у гармонік паскудных плакацікаў. Па ўсім відаць — вытворчасць уласаўскай прапаганды.

Ледзь не поруч рыпнулі калёсы. Азіраемся на лесавую дарогу. Канячка, лядашчая, нявылінялая, угінаючыся, цягне воз. Адзін чалавек вядзе каня за аброць, другі робіць выгляд, што папіхае.

Драбіны накрыты салдацкай коўдрай, узятай, відаць, у тым пакінутым лагеры.

Нехта з нас асцярожна адхінуў беражок коўдры: вінтоўкі! Навалены па самыя аглабіны, нашы і трафейныя.

— А гэта нашто?

# ДОБРЫ ХЛОПЕЦ ДЗІК

— Можа, спатрэбяцца калі, — адказвае маладзейшы возчык, бялявы, з не вельмі пэўнымі вачыма.

— А вы?

— Мы з ... — называецца вёска, — вёрст пяць адсюль. Толькі што з партызанаў сыскаліся, адваявалі.

— І зноў за зброю? — гаворку вядзе капітан, старшы нашай групы.

— Не надта трэба, але няхай будзе.

— Лепш бы адзежу бралі. Бачылі, колькі яе. Вам жа перазімаваць у нечым давядзецца.

— Гнюсная там адзежа, гідка ў рукі ўзяць.

— А вінтоўкі не гнюсныя?

— Так-то яно так. Але ж вінтоўку агледзь ды страляй у варожыя галовы.

— Дык жа вайна пад канец коціцца.

— Так-то яно так! — зноў абзываецца белабрысы. — Але вайна ёсць вайна... Няхай будзе поблізу тое, чым стрэліць.

На гэтым і развітваемся. Казаць, каб скінулі з воза зброю — сэнсу няма: скінуць, а мы ад'едземся, зноў набяруць.

Сядаем на адпачыўшы грузавічок. Ва ўсіх, відаць, падобныя думкі. Столькі адваяваў, перацерпеў народ і зараз не хоча выпускаць з рук зброі: ану, не дай Божа, зноў давядзецца брацца за яе.

Наша машына адважна пераадольвае ручаіны — масты разбураны, выбіраецца з пяску, натужыцца, узлазячы на пагоркі.

І яшчэ раз спыняецца. Вылазім і, скінуўшы шапкі, моўчкі глядзім. Родны з маленства брук сталіцы, як водар, яе сціплы выгляд. Няўжо ж нічога не змянілася?

Лепшая і прыгажэйшая частка горада, што называецца цэнтр, здаецца, стаіць, як і даўней. Але ж гэта адны сцены! Узвышаюцца над патрушчаным шклом і патоўчанай цэглаю руін. Нахаладаліся ад сіверу, наслізіліся ад пранізлівай слаты і вось пазіраюць пустымі аконнымі праймамі на ўсе бакі свету! Дахі, падлогі, рамы паглынула полымя: адна бамбёжка даганяла другую.

Хачу ўцерці запылены твар і намацваю пальцамі мокрую палоску на шчацэ. Гляджу на сваіх таварышаў: і ў іх на тварах гэткія самыя рагі. Апошнія, будзем спадзявацца, мужчынскія слёзы. А можа, і першыя: раней на іх не было ні часу, ні права.

Зараз жа — перад зіркам знішчаны горад, той, што падняў нас на ногі, стаў вялікім бацькоўскім домам. Праз сухія вочы глядзець на яго, такі, нельга...

Усе мы кіруемся ў адзін дом. Праз нейкую гадзіну кожнага накіроўваюць на работу, на нікім не ўгрэтае яшчэ месца. Часцей за ўсё не ў дамы, на пляцоўкі, дзе павінны вырасці дамы.

*(працяг у наступным нумары)*

**МАКСІМ ЛУЖАНІН**

## КРОПЕЛЬКА

Аднойчы на кончыку ледзяка з'явілася Кропелька. Зірнула туды, зірнула сюды і здзівілася: вясна не за гарамі, а суседняя Рачулка закавана ў ледзяныя аковы!

І рашыла Кропелька дапамагчы Рачулцы — саскочыла на дол. За ёю з падстрэшша саскочыла яшчэ адна Кропелька, потым другая, трэцяя... Узяліся яны за рукі, і атрымалася Ручаінка.

Бяжыць Ручаінка пад сонцам, пазвоньвае, а прыбегла да Рачулкі — жахнулася: тая ледзь жывая! Хоча скінуць з сябе зімовыя аковы, а не можа. І тады Кропелька, што першай саскочыла на зямлю, адшукала трэшчынку ў лёдзе і — туды. За ёю ў Рачулку ўліліся іншыя Кропелькі. Неўзабаве і ўся Ручаінка была там.

Налеглі ўсе разам на лёд, і не вытрывалі зімовыя аковы, раскалоліся. Рачулка скінула іх і, радая, пабегла туды, дзе віднелася Вялікая Рака, яшчэ ўкрытая тоўстым лёдам.

Жаваранак на ўсё гэта пазіраў з-пад сонца і вызвоньваў:

— Вось што значыць у дружбе жыць!

— Вось што значыць адну справу рабіць!..

**ЯРАСЛАЎ ПАРХУТА**

## Вершы Віктара Шведа

### СЛОН І МЫШКА

Сустрэў слон палявую мышку
І дзівавацца стаў ён крышку.
— Як жа страшэнна ты малая,
Цябе я ледзьве прыкмячаю!

Мышка збянтэжаная трошкі,
На заднія прысела ножкі
І адказала слану смела:
— Вядома, я ж тры дні не ела!

### НОВЕНЬКІ ДЫВАН

— Старыя, — хваліцца Сцяпан, —
Купілі новенькі дыван.
Адгэтуль, проста мне дзівота,
Усіх змушаюць здымаць боты.

— Бацькоў тваіх я не віню,
Дбаюць яны аб чысціню,
Загад іх зразумелы мне.
— Дыван жа вісіць на сцяне!

### ДВА МІНУС ДВА

Настаўнік пытае Кольку:
— Два мінус два будзе колькі?
А той праз пару хвілін
Адказвае: — Будзе адзін.

— Прыклад: кладу асцярожна
У кішэні дзве па пірожным,
А ты іх з'ядаеш у хаце?
— Павінны... крошкі астацца.



*Хлапчукі на начным канцэрце фестывалю ў Гарадку — зусім нястрашна!*

**Фота М. Лукшы**

*ПІМЕН ПАНЧАНКА*

## МЕСЯЦЫ ГОДА

Студзень — з казкамі снежных аблокаў,
Люты — шчодры на сіні мароз,
Сакавік — з сакатаннем і сокам
Беларускіх вясновых бяроз,
Красавік — час маланак і ліўняў,
Травень — з першым мурогам, сяўбой,
Чэрвень — з ягаднаю зарой,
Ліпень — з мёдам,
З пшаніцаю — жнівень,
Спелы яблычны верасень,
Багаты кастрычнік
У празрыстасці чыстай, крынічнай,
Лістапад — залаты лістапад,
Снежань — першы густы снегапад.

## ЛАГАГРЫФ

1. жонка цара, 2. назва вядомага спортклуба з Менска, 3. праца, 4. частка гітары, фартэпіяна і т.п., 5. мэбля для сядзення, 6. дзяржава грэкаў.



Вылучаныя літары складуць назву гароднiны, якая выціскае слёзы.

# НАЦЫЯ І ШКОЛА

У чэрвені г.г. выйшла з друку кніжка Яна Максімюка „Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне 1945-1950”*). Аўтар яе быў шматгадовым журналістам „Нівы” і рыхтуючы кніжку ў друк часта расказваў пра сваю новую працу. Ян Максімюк вельмі эмацыянальна заангажаваўся ў распрацоўку гэтай тэмы. Здаецца, што нават пачаў жыць і думаць катэгорыямі людзей, якія пасля вайны апынуліся на тэрыторыі акупаванай заходнімі саюзнікамі Нямеччыны. Канчатковы вынік ягонай працы аказаўся амаль знакаміты. Свет пабачыла кніжка, да зместу якой, з мерытарычнага пункту гледжання, немагчыма „прычапіцца”.

Максімюк — не гісторык, але праўдападобна ніводзін гісторык не зможа паставіць яму закід у нейкіх непаслядоўнасцях і ўнутраных супярэчнасцях ці недахопе лагічнай канструкцыі выказванняў, што, на жаль, часам здараецца паважным навукоўцам.

На маю думку, Ян Максімюк не надта трапна прыдумаў загаловак сваёй кніжцы. З аднаго боку ён цалкам адпавядае зместу працы, з другога, аднак — абмяжоўвае колькасць патэнцыяльных чытачоў. Хаця большасць аб'ёму кніжкі прысвечана гісторыі аднае школы (што не выкліча масавага зацікаўлення), аднак вялікая яе частка расказвае пра лёс амаль паўмільённай масы беларускіх перасяленцаў, якія падчас вайны апынуліся на тэрыторыі Нямеччыны. Кніжку чытаецца вельмі лёгка нават тады, калі за акном сонечнае надвор'е вабіць захапляцца прыгажосцю летняй прыроды. Няма сумненняў, што вартасць працы ў значнай ступені вызначаюць таксама літаратурныя і мовазнаўчыя здольнасці Максімюка.

Сваю кніжку аўтар пачынае фразай, якую — здаецца — як прынцып свайго існавання ўспрымаюць усе сучасныя народы: *Без нацыянальнай школы няма нацыянальнай свядомасці*. Беларусы, як ніводная іншая нацыя ў Еўропе, спазналі гэтую праўду асабліва балюча. Школа, — піша далей Максімюк, — у набыванні нацыянальнае свядомасці сапраўды незаменная. Без яе мы і далей будзем сузіраць тое, што цяпер называем беларускім нацыянальным адраджэннем: разбіванне ілбоў невялікае групы інтэлігенцыі аб сцяну нацыянальнага нігілізму ці абыякавасці асноўнае масы патэнцыяльных беларусаў.

Максімюк напісаў кніжку па заказу былых вучняў Гімназіі імя Янкі Купалы, але як ужо ўспаміналася, — не абмяжоўваўся ён толькі да спраў узнікнення і дзейнасці самой школы. Першы раздзел прадстаўляе шлях, якім амаль 500 тысяч беларусаў у 1939-1945 гадах трапілі ў Нямеччыну. Для шматлікіх выхадцаў, асабліва тых, якія добраахвотна пакінулі Бацькаўшчыну, кашмар пачаўся пасля „вызвалення” Нямеччыны заходнімі саюзнікамі. Згодна з ялцінскімі дамовамі, амерыканцы пачалі прымусова высяляць на Усход былых грамадзян СССР. Пра лёс тых, якія вярнуліся ў Савецкі Саюз вырашалі энкавэдзісты. Канцлагеры ў Сібіры былі найбольш лагодным пакараннем за пабыўку на Захадзе. І няважна ці быў гэта салдат, які папаўся ў нямецкі палон, ці рабочы, якога фашысты вывезлі на прымусовую працу ў нямецкія фабрыкі — усе яны былі аднолькава вінаваты. Максімюк прыводзіць у сваёй кніжцы ўспаміны амерыканскага салдата, які прымаў удзел у высяленні савецкіх грамадзян. Гаворыць ён выразна, што амерыканцы былі свядомыя таго, што чакае гэтых людзей на Усходзе, але для іх — радавых салдат — паляванне на „рускіх” было ўсяго толькі знакамітай гульнёй.

Каля 100 тысяч беларусам удалося пазбегнуць рэпатрыяцыі і астацца ў Нямеччыне. У большасці трапілі яны ў лагеры для перамяшчэнцаў.

Лагеры гэтыя ўтрымоўваліся за кошт міжнароднай арганізацыі Адміністрацыі Аб'яднаных Нацый для дапамогі і адбудовы (УНРРА), а з ліпеня 1947 г. — Міжнароднай арганізацыі выхадцаў. Перамяшчэнцы атрымалі магчымасць арганізаваць сабе ўнутранае жыццё лагера. Затым неўзабаве ўзнікла там свая паліцыя, пажарная каманда, а нават суд, які займаўся драбнейшымі справамі. Пасля некалькіх тыдняў існавання, лагеры былі пераарганізаваны і са шматнацыянальных створаны былі нацыянальныя. Такія змены не толькі ліквідавалі магчымасць патэнцыяльных канфліктаў, але таксама паспрыялі арганізацыі культурнага і асветнага жыцця выхадцаў. Як піша Ян Максімюк „перамяшчэнцы практычна самі арганізавалі універсітэт у Мюнхене восенню 1945 г.”

Беларусы ў большасці апынуліся ў польскіх нацыянальных лагерах, а гэта таму, — паясняе Максімюк, — што заходнія саюзнікі наогул не разбіраліся, што гэта за нацыянальнасць — беларус, і чаму ён не расеец. А савецкія місіі хапалі ўсіх „сваіх”, пакуль нейкі беларускі камітэт не растлумачыў амерыканскім ці брытанскім афіцэрам, што адбываецца гвалт над грамадзянамі іншай дзяржавы (даваеннай польскай). Тым не менш толькі на тэрыторыі амерыканскай зоны было 13 беларускіх асяродкаў. У адным з такіх лагераў, у Рэгенсбургу, дзе камендантам спачатку быў Янка Станкевіч, а пасля Францішак Кушаль, дзейнічала беларуская пачатковая школа, скаўтынг, друкарня і з 22 снежня 1945 г. — беларуская гімназія, названая пазней імем Янкі Купалы, менавіта якой Максімюк прысвяціў сваю кніжку. Беларускі нацыянальны камітэт у Рэгенсбургу стварылі людзі, якія былі свядомыя таго, што вяртанне ў Савецкі Саюз абазначае найгоршае. Прымусовая рэпатрыяцыя, арганізаваная амерыканцамі паводле патрабаванняў саветаў, прывяла беларускіх дзеячоў да высновы, што патрэбны нейкі каардынацыйны цэнтр, які меў дапамагаць суродзічам вырашыць іх асноўныя праблемы.

6 чэрвеня 1945 г. узнік Камітэт, які пачаў сваю дзейнасць з рэгістрацыі беларусаў, якія прабывалі ў лагерах. Сарганізаванае грамадства — як вядома, — хутка вырашае свае праблемы. Стварэнне школы пры спрыяльных адносінах акупацыйных улад і нямецкай асветнай адміністрацыі пайшло вокамгненна. Беларуская гімназія мела быць раўнапраўнай з нямецкімі школамі і дзейнічаць у нямецкай адукацыйнай сістэме, а яе выпускнікі — мець такія самыя правы як нямецкія матурысты.

Пра характар школы сведчыць колькасць гадзін навучання паасобных прадметаў. Беларуская мова трактавалася асабліва — у кожным класе выкладалася яна 6 гадзін у тыдзень, ангельская і нямецкая — 3, матэматыка — 5, прырода і гісторыя — 3, рэлігія — 2, усе іншыя прадметы — 1—2 гадзіны.

Максімюк дае знакаміты вобраз існавання школы ў незвычайных умовах. Там, дзе ўлады не ўмешваліся, беларусы ставаліся нармальнай нацыяй: гаварылі, спявалі, вучылі сваіх дзяцей на роднай мове. І нават, калі школу перанеслі з Рэгенсбурга ў Міхельсдорф, а пасля ў Віндышбергердорф, калі наступілі палітычныя падзелы сярод эмігрантаў — ніхто не сумняваўся ў тым, што без нацыянальнай школы няма нацыі. Хапала толькі хацець быць беларусам, як даказаў Янка Максімюк, каб перамагчы ўсе цяжкасці і ў канцы стаць сабою. Існаванне беларускай гімназіі на чужой зямлі сведчыць аб тым, што людзі, якія апынуліся на Захадзе, жылі там з думкай, што калісьці вернуцца на сваю Бацькаўшчыну.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

---

**) Ян Максімюк, Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне 1945-1950, Нью Ёрк — Беласток 1994, с. 197.*

P.S. Кніжку можна купіць у рэдакцыі „Нівы”.

# ЛЕШЭК МАТЭЛЯ РАССАКРЭЧВАЕ БЕЛАВЕЖУ

На пачатку чэрвеня 1991 г. на адным з дубоў, што растуць побач музея ў Белавежы, паявіўся вобраз людской галавы. Мабыць, ён праявіўся раней, але толькі ў чэрвені таго ж года яго прыкмецілі і распаўсюдзілі аб ім весткі. Я пра саму з'яву і звязаныя з ёю здарэнні пісаў неаднакратна (глядзі „Ніва” н-р 30 і 38/1991 г. ды 34 і 43/1992 г.).

Праз нейкі час я, Сяргей Тарасевіч і Барыс Руско прыйшлі да вываду, што ўзгорак, на якім расце той асаблівы і іншыя дубы, магчыма з'яўляецца г. зв. месцам моцы. Гэткае меркаванне падмацоўваў надрукаваны ў штомесячніку „Nie z tej Ziemi” артыкул Лешка Матэлі пра геаманцыю. Мы сцвердзілі, што большасць прыкмет месцаў моцы, якія пералічваў аўтар, выступаюць на згаданым узгорку і ў яго наваколлі. Мы скантакаваліся са сп. Матэляй і запрасілі яго ў Белавежу, каб ён асабіста пацвердзіў або адкінуў нашую інтэрпрэтацыю. Л. Матэля ахвотна прыняў нашу прапанову, але гэтак склалася, што ў Белавежу ён прыехаў толькі 30 красавіка г.г.

Л. Матэля невыпадкова праводзіў доследы 30 красавіка. Паводле гіпотэзу расейскіх вучоных Ганчарова, Макарава і Марозава зямны шар мае структуру крышталю. На Зямлі, як і на паверхні крышталю знаходзяцца пункты і лініі актыўныя энергетычна. Праз іх перацякае энергія жыцця. Тыя ж вучоныя адкрылі, што на лініях і вузлах крысталічнай сеткі Зямлі ўзнікалі важныя культурныя і цывілізацыйныя цэнтры.

Л. Матэля (а раней мы!), вывучаючы карту такіх цэнтраў і спалучэнняў паміж імі, сцвердзіў, што на адной з ліній крышталічнай сеткі знаходзіцца менавіта... Белавежа. Лінія гэта бяжыць на захад праз Гнезна, а далей праз Гексетанпляц, легендарны культавы цэнтр у гарах Гарц, а таксама праз Другельтэ, вестфальскую мясцовасць вядомую сваёй таямнічай капліцай секты катараў. Уступныя даследаванні паказваюць, што найбольшую актыўнасць гэтая лінія праяўляе... 30 красавіка. Можна тут дадаць, што эзатэрычная традыцыя спалучае гэты дзень з днём Вальпургіі, значыць святам ведзьмаў.

Наш госць прывёз з сабой шмат спецыялістычных прыладаў. Пры іх дапамозе ўстанавіў, што дуб з выявай людской галавы (дарэчы, замаляванай 18 ліпеня 1992 г.) знаходзіцца на вельмі моцна выпраменьваючым скрыжаванні падымаючыхся крута на паверхню водных цёкаў і ўпісваецца ў сістэму касмічнага выпраменьвання, вядомага ў радыестэзіі пад назвамі „швейцарскай сеткі” і „дыяганальнай сеткі”. Пры дапамозе паказчыка электрамагнітнага поля Л. Матэлі ўдалося лакалізаваць перабягаючую цераз дуб (з паўднёвага захаду) зону выпраменьвання невядомага паходжання. Л. Матэля дапускае, што яна спадарожнічае лініі геамантычнага выпраменьвання, якая цягнецца праз усю Еўропу і спалучае Белавежу са згаданымі раней культавымі месцамі.

Здзіўляе, а і пакрысе нават шакіруе, што выяўленая радыестэзійнымі метадамі частата вакол дрэва адпавядае рытму дыхання чалавека, а таксама колькасці ўдараў сэрца на мінуту. Быццам дуб — жывая істота, пульсуючая ў фізіялагічным рытме чалавека.

З радыестэзійных даследаванняў усяго ўзгорка, на якім расце 15 старых дубоў, вынікае, што абшар гэты з'яўляецца моцна выпраменьваючым месцам. Паводле Л. Матэлі, гэта самае вялікае месца моцы ў ваколіцы. Інтэнсіўнасць выступаючага тут выпраменьвання перавышае 50 тысяч адзінак па шкале Бовіса. Для параўнання — карыснае для чалавека напружанне вібрацыі па той шкале пачынаецца ўжо з 6 500 адзінак!

Вядома, што ў шматлікіх месцах моцы выступаюць крынічкі, у якіх вада мае надзвычайныя ўласцівасці. Так ёсць і ў Белавежы. Радыестэзійныя даследаванні вады з крынічкі, якая выцякае каля падножжа ўзгорка, пацвердзілі яе высокую біяэнергетычную якасць. Як на іронію, крынічка занядбаная, забруджаная. Л. Матэля прапануе, каб нехта зацікавіўся выкарыстаннем лячэбных якасцей гэтай вады і нават прыдумаў для яе назву — „Палацовая”.

Выпраменьванне на ўзгорку з дубамі валодае вялікай моцай ўздзеяння: некаторыя адчуваюць „мурашкі” па руках ці нагах, іншым кружыцца галава, а яшчэ ў іншых на скуры з'яўляюцца белыя плямкі. Асобы з медыумічнымі ўласцівасцямі адчуваюць у гэтым месцы вялікую энергію і маюць таямнічыя прывіды. Такая з'ява ў эзатэрычнай літаратуры акрэсліваецца „душой месца”, але неабавязкова трэба гэта разглядаць у спірытыстычных катэгорыях. Сяргей Тарасевіч, напрыклад, адчувае „душу” ўзгорка ў выглядзе кулі.

Л. Матэля сцвярджае, што сіла месца моцы можа чалавека прымушаць, выклікаць перапалох, як і інспіраваць, узбуджаць духова. Усё залежыць ад таго, як да гэтага паставіцца. Важнае ёсць, каб умець свядома раскрывацца на карысныя энергіі, якія выступаюць у месцах моцы і канцэнтравацца на іх пазітыўным і стымулюючым уздзеянню.

Наш даследчык паспрабаваў і медытацыі ля дуба. Ён атрымаў прадпасланне гэтага месца, якое сімвалічна прадстаўляе пераход у другую, невядомую рэчаіснасць. Супадала б такое сцвярджэнне з выказваннямі некаторых вельмі ўражлівых асоб, якія мелі тут адчуванне, быццам нейкая невядомая сіла ўцягвала іх у іншую прастору.

Пры нагодзе знаходжання ў Белавежы, Л. Матэля даследаваў іншае месца моцы, якое знаходзіцца ў 495 квартале Белавежскай пушчы, а пра якое я пісаў у „Ніве” н-р 24 ад 13.VI.1993 г. Ён цалкам пацвердзіў наш гіпотэз наконт незвычайнасці гэтага месца.

Белавежскія месцы моцы надта заінспіравалі беластоцкага (Л. Матэля жыве і працуе ў Беластоку!) радыестэта. Частку сабраных тут матэрыялаў і сваіх высноў змесціць ён у сваёй кніжцы пра геаманцыю, якая рыхтуецца да друку. Здолеў ён таксама зацікавіць Белавежай вялікую групу заўзятых даследчыкаў таямнічых з'яў, у гэтым ліку нават уфолагаў. Яны прыедуць сюды з Л. Матэляй на супольнае рассакрэчванне таямніц у канцы жніўня або ў пачатку верасня г.г. Белавежская тэма зацікавіла таксама рэпарцёраў II праграмы польскага тэлебачання, якія рыхтуюць тэлеперадачу „Era Wodnika”. Трэба спадзявацца, што восенню г.г. адзін з выпускаў гэтай перадачы будзе прысвечаны менавіта пушчанскім месцам моцы. Праўдападобна і мы ў ёй выступім, расказваючы аб сваіх выпрабаваннях.

Л. Матэля падрыхтаваў абшырны матэрыял аб белавежскіх месцах моцы, які паявіцца ў адным з восенскіх нумароў штомесячніка „Nie z tej Ziemi”. Скарочана версія гэтага артыкула была надрукаваная ў „Gazecie w Białymstoku” ў нумары ад 8 чэрвеня г.г.

І, нарэшце, яшчэ адна цікавінка! Л. Матэля праводзіў медытацыі таксама ва ўрочышчы Старая Белавежа, пасярод „Каралеўскіх дубоў”, дзе паляць турысцкія вогнішчы. Ён атрымаў прадпасланне гэтага месца, якое прадстаўляе вялікае полымя. Даследчык баіцца, каб не быў гэта прывід пажару, які тут можа здарыцца. Ён на тры гады да пажару царквы на Грабарцы падчас медытацыі бачыў палаючую карону.

**ПЁТР БАЙКО**

Вяртанне нацыянальных каштоўнасцяў

# ЦАРКОЎНАЕ МАСТАЦТВА

## Частка II

Вяртанне культавых прадметаў і маёмасці Царкве напатыкае розныя перашкоды. У Польшчы, як гаварылася ў папярэднім нумары, шкодную ролю адыгрывае ў гэтай справе каталіцкая іерархія, але калі б пайсці далей, супраціў можа з'явіцца яшчэ з іншага боку. Прадвесцем магчымых рознагалоссяў можа быць сітуацыя, якая ўжо ўзнікла ў Расеі. Менавіта 23 красавіка мінулага года прэзідэнт Ельцын апублікаваў свой дэкрэт „Аб перадачы рэлігійным арганізацыям культавых будынкаў ды іншай маёмасці". Гэта было ў сапраўднасці афіцыйнае ўхваленне практыкі, якая некалькі гадоў ажыццяўлялася і без дэкрэта. У адпаведнасці з указам Трэцякоўская галерэя павінна перадаць Маскоўскай Патрыярхіі „Уладзіміраўскую Ікону Божай Маці" XII стагоддзя і славутую „Тройцу" Андрэя Рублёва. Затым музеі вымушаны будуць перадаць Царкве тысячы іншых каштоўнасцяў, адабраных у яе пасля бальшавіцкага перавароту. І гэтая перспектыва сур'ёзна ўстрывожыла музейнікаў.

Перш чым перайсці да іхніх аргументаў, звернем увагу на пазіцыю царкоўнай іерархіі ў гэтай справе. Царква перш за ўсё падкрэслівае адну неаспрэчную праўду, што ўсе культавыя прадметы служаць малітве, а не агляданню. Гэтак званая „літургічная першапрычына" абазначае, што храмы, іконы, фрэскі, харугвы, посуд не былі створаны для музеяў, але для багаслужбы і кожны іншы ўжытак разбурае іх „малітоўную цэласнасць". Хто б не пабудаваў храмы або намаляваў іконы, аплачвалі і заказвалі іх вернікі канкрэтнага веравызнання гэтак, як помнікі і партрэты Леніна заказвала кіруючая партыя, а не Царква. Царкоўныя іерархі сцвярджаюць, што „Уладзіміраўская Ікона Божай Маці" не з'яўляецца „агульнанацыянальнай уласнасцю". Да народа належаць і мусульмане, і яўрэі, і атэісты, а ікона належыць у першую чаргу Праваслаўнай Царкве. Гэтак жа і месца „Тройцы" Рублёва ў храме і царква здольная забяспечыць ёй і ўсяму іншаму годнае і належнае пераховуванне ў царкоўных рызніцах і царкоўна-археалагічных музеях.

Апаненты вяртання Царкве культавых прадметаў прынцыпова не аспрэчваюць ейнага права на ўласнасць. Загадчыкі музеяў і гэтак званыя людзі культуры лічаць, аднак, што некаторыя помнікі культуры сталіся агульнанацыянальнымі святынямі. Яны лічаць, што ў Царквы высакародныя, але іншыя мэты. Ейныя функцыі: хрэсныя шэсці, сажа ад свечак, лампадаў і кадзілаў, ваганні вільготнасці і тэмпературы дрэнна ўздзейнічаюць на бясцэнныя, старажытныя прадметы. Ужо ў мінулым стагоддзі найбольш свядомыя епіскапы і святары, напрыклад, кіеўскі мітрапаліт Яўген, пачалі перадаваць унікальныя помнікі культуры ў епархіяльныя і дзяржаўныя музеі ды архівы. Як падкрэсліваюць музейнікі, нават даўней каштоўнейшыя рэліквіі не выкарыстоўваліся ў штодзённых багаслужбах, але пераховуваліся ў рызніцах.

На думку загадчыкаў музеяў, Царква няздольная, а часам нават і не хоча, гарантаваць ніводнага з прынцыпаў, якімі кіруюцца музеі. Па-першае, на іх думку, Царква не можа гарантаваць надзейнай абароны перад крадзяжом і, затым, вывазам за мяжу. Яны лічаць, што Царква не можа гарантаваць таксама прынцыпу агульнадаступнасці. Не ўсе могуць паглядзець роспіс Рублёва ў алтары Успенскага сабора ва Уладзіміры і не кожны можа трапіць у царкоўна-археалагічны кабінет маскоўскай Духоўнай акадэміі. Царква не ў стане гарантаваць адпаведнай тэмпературы і вільготнасці, не можа элімінаваць свечак, лампадаў і рэгуляваць працягласць багаслужбаў. На іх думку, Царква стагоддзямі ўтойвала сапраўдны выгляд іконы пад металёвымі рызамі і пластамі новых малюнкаў. Каб убачыць сапраўдны выгляд „Тройцы" Рублёва, трэба было зняць восем пластоў фарбы. Паводле апанентаў перадачы Царкве падобных каштоўнасцяў, навуковую рэстаўрацыю помнікаў культуры могуць гарантаваць толькі спецыялісты, якіх Царква не мае.

На думку апанентаў аддачы Царкве гістарычна-культурных каштоўнасцяў, узнікае ў сувязі з гэтым шэраг дадатковых пытанняў. Менавіта, ці Царква мае права валодаць і распараджацца агульнанацыянальнымі каштоўнасцямі як сваёй уласнасцю? Хто канкрэтна ў Царкве павінен узяць на сябе юрыдычную і крымінальную (у выпадку крадзяжу) адказнасць за стан каштоўнасцяў: грамада вернікаў, настаяцель ці епіскап? Ці грамадства можа атрымаць ад Царквы гарантыі выканання вышэйзгаданых прынцыпаў, якімі пры захоўванні помнікаў культуры звычайна кіруюцца музеі?

Вось гэтыя аргументы супраць вяртання Царкве ейнай маёмасці высоўваюць людзі адказныя за пераховуванне помнікаў культуры. На іх думку, калі б дакладна ажыццявіць прэзідэнцкі ўказ, гэта быў бы сапраўды рэвалюцыйны пераварот у культуры з не менш трагічнымі вынікам, як кастрычніцкі пераварот у 1917 годзе. У Беларусі падобнага дэкрэту яшчэ не было, але Царква паступова атрымоўвае назад усё, што некалі было ў яе адабранае. Ці слушна, ацэньвайце самі.

*(працяг будзе)*

**а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК**

# ГЕАПАЛІТЫКА ПРАВАСЛАЎЯ

*Працяг са стар. 4*

сульман, якія нават сваёй этнічнай назвы не маюць. Ды і захаду вядомы быў прынцып cuius regio, eius religio (чыя дзяржава, таго рэлігія).

Усё-такі дарма разводзіць філасофію пра гістарычныя рацыі. Два цывілізацыйныя блокі ў Еўропе фармуюцца на вачах. Магчыма, што гэта вынікае з патрэбы яднання, выкліканай сусветнай канкурэнцыяй. Натуральным чынам свой ідзе да свайго, таму сярэднееўрапейскія каталіцкія і пратэстанцкія дзяржавы пруцца да „лацінскага" Захаду і праўдападобна дасягнуць свайго, хаця цікава будзе наглядаць, як палякі будуць ужывацца з немцамі. Пакуль што, як быццам дагарае нават самае вялікае полымя этнічна-рэлігійнай варажнечы ў Заходняй Еўропе: каталіцка-пратэстанцкі канфлікт у Паўночнай Ірландыі.

Намнога больш складаная сітуацыя, як сцвярджае Франсуа Туал, у праваслаўным лагеры. Яго ахілесавай пятой з'яўляецца Македонія, якая ніяк не дапасоўваецца да сістэмы саюзаў. Грэкі ахвотна бачылі б далучэнне Македоніі да Сербіі, на што не могуць згадзіцца балгары і трымаюцца крыху з боку „праваслаўнага саюза". Апрача Македоніі невядомае становішча Украіны, якая не хоча падпарадкавацца Расеі і ў якой існуюць ажно тры праваслаўныя цэрквы, пра уніятаў ужо не гаворачы.

У месцы Беларусі ва ўсім гэтым французскі палітолаг не сумняваецца. Яно ў сучаснай Візантыі, хаця бачыць тут нейкія ўскладненні. На жаль, не ўдакладняе ён характар гэтых ускладненняў. Можна тут толькі дадаць, што мара беларускіх адраджэнцаў пачатку XX стагоддзя стварыць адну нацыю з праваслаўных і католікаў не ажыццявілася. Гэта пацвярджае тэорыю, што прыналежнасць да акрэсленай цывілізацыі намнога важнейшая, чымся ўсе іншыя фактары, напрыклад, мова.

Такім чынам, стварэнне нацыі, якая адначасова належала б да дзвюх цывілізацый (як, напрыклад, праваслаўна-каталіцкая беларуская) або нават трох (праваслаўна-каталіцка-мусульманская сербахарвацкая) аказваецца немагчымым. У выпадку Беларусі спроба скончылася пераходам большасці католікаў у пальшчызну. Паколькі працэс рэлігійнай дыферэнцыяцыі ў Беларусі надалей паглыбляецца (у сувязі з пашырэннем пратэстанцкіх цэркваў), завяршэнне кансалідацыі беларускай нацыі можа і з гэтай прычыны адцягвацца.

Столькі пра „геапалітыку праваслаўя". Праўду кажучы, геапалітыка цывілізацыі гэта ўсё-такі папяровая канструкцыя. У любы момант яе можа раскінуць нейкі чарговы выбух нацыяналізму, які ані рэлігію, ані цывілізацыю наогул блізка да сэрца не прымаюць.

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

# БАРАЦЬБА РЫМСКІХ ПАП ЗА СТВАРЭННЕ КАСЦЕЛЬНАЙ ДЗЯРЖАВЫ (717—756 г.г.)

Візантыя не хацела пагадзіцца са стратай Італіі. Калі імператарам стаў Леў III (717—741 г.) і адбіў усе атакі арабаў і балгараў, і калі зліквідаваў ён унутраны хаос, тады патрабаваў, каб Рым плаціў падаткі. Папа Рыгор II (715—731), рымлянін, адмовіў плаціць і імператар не мог яго прымусіць, бо абараняла яго армія лангабардаў. Невядома чаму Леў III пачаў барацьбу з культам ікон, якую падтрымоўвала частка царкоўных іерархаў. Але супраць іканаборства выступілі манахі і звязанае з манастырамі насельніцтва. Барацьба з культам ікон аслабіла аўтарытэт імператара. Выкарыстаў гэта папа Рыгор II, які па палітычных прычынах (а не рэлігійных) у 726 г. адкінуў імператарскі эдыкт, які забараняў шанаваць іконы. Супраціўленне Рыгора II вызвала энтузіязм насельніцтва Італіі, якое хацела выбраць імператарам Рымскай імперыі рымляніна, але папа не згадзіўся, каб не дзяліцца з ім уладай. Папа пачаў шукаць саюзнікаў у дзяржаве Меравінгаў і ў англічан, а таксама сярод нямецкіх плямён з-над Рэйна. Атрымаў ён помач ад манахаў бенедыкцінаў у Германіі. Апостал усходняй Франконіі, Вінфрыд, якога пазней назвалі Баніфаціем, атрымаў ад Рыгора II званне епіскапа. Наступны папа, Рыгор III (731—741), сірыец, кінуў праклящце на імператара Льва III. Тады імператар выслаў марскі флот і заняў папскую тэрыторыю на Сіцыліі і ў Калабрыі і адабраў папу кіраўніцтва над Ілірыяй (сёння Харватыя) і далучыў яе да канстанцінопальскага патрыярхату. Гэта выклікала барацьбу папства з грэкамі, якая цягнулася пяць стагоддзяў і прывяла да лацінска-грэчаскай схізмы. Папа імкнуўся стварыць уласную свецкую дзяржаву і накінуць заходнім касцёлам догму аб прымаце рымскага папы. На перашкодзе да першай мэты стаялі лангабарды, якія не хацелі прызнаць горад Рым уласнасцю толькі Апостала Пятра, г.зн. папы. Папа звярнуўся з просьбаю за дапамогай да Карла Мартэла (Молата), які пасля перамогі над арабамі пад Пуацье ў 732 г. быў валадаром дзяржавы франкаў. Але Карл Мартэл не захацеў выступаць супраць лангабардаў, бо з імі не межаваў. Новаму папу, грэку, Захарыю (741—752) удалося ў 742 г. заключыць перамір'е на 20 гадоў з лангабардамі, а нават атрымаць ад іх чатыры крэпасці, забраныя грэкам. Папа ўзяў удзел у загаворы супраць караля франкаў Хільдэрыка III Меравінга (743—751), якога галоўным арганізатарам быў Піпін Кароткі, сын Карла Мартэла, канцлер караля. У 741 г. памерлі Карл Мартэл і імператар Леў III. Вясной 751 г. прыехаў у Рым прадстаўнік Піпіна і перадаў папу пытанне: „Ці правільна гэта, каб каралём называлі таго, хто мае толькі званне, ці павінен быць каралём той, хто мае ўсю ўладу?" Піпін сам мог зрабіць пераварот, але баяўся апазіцыі, звязанай з рэлігійнымі поглядамі. Але папу Евангелле патрэбнае было толькі дзеля таго, каб гаварыць цытаты аб Апосталу Пятру. Папа ўжо закінуў хрысціянскую навуку Апостала Паўла аб паслушэнстве палітычным уладам. Папа Захарый адказаў: „Было б лепш і карысней, каб называлі каралём таго, хто мае ўладу, чым таго, хто няправільна носіць званне караля". Не трэба дадаваць, што гэтыя словы апраўдвалі ўсе перавароты без агаворак. Калі Піпін Кароткі атрымаў падтрымку папы, то ён адняў уладу васемнаццацігадоваму каралю, кінуў яго ў манастыр і восенню 751 г. у Суасон (дзе 270 год раней заснавалася дынастыя Меравінгаў) епіскап Баніфацій каранаваў узурпатара каралём.

У Італіі лангабарды ў 751 г. захапілі Равену, сядзібу візантыйскіх экзархаў і ўключылі яе ў сваё каралеўства. І Рым стаў незалежны ад улады канстанцінопальскага імператара. Папа Сцяпан II (752) жыў пасля выбару толькі тры тыдні і пасля яго папам стаў Сцяпан III (752—757) — рымлянін. Быў ён першым папам, які паехаў у дзяржаву франкаў прасіць дапамогі супраць лангабардаў, калі тыя падышлі пад Рым. 240 км ад Парыжа, у Карысіякуме на каленях прасіў ён Піпіна дапамогі. Папа выступаў у ролі імператарскага губернатара. Франкі не вельмі хацелі выступаць супраць лангабардаў, бо яны былі іх саюзнікамі ў барацьбе супраць бургундаў. Але Піпін Кароткі ўдзячны за тое, што папа дапамог яму стаць каралём і даў яму тытул „патрыцыя Рыма", а таксама абяцаў яму даць рэліквіі св. Петранелі (быццам бы дачкі Апостала Пятра, якія нібыта былі знойдзены ў катакомбах), пастанавіў яму дапамагчы. За папам быў міф аб Святым Пятры. Для невучоных і забабонных франкаў Апостал Пётр быў важнейшы за самага Хрыста ці нават Бога. Міф гэты спецыяльна падтрымоўвалі. За Сцяпана III быў сфабрыкаваны фальсыфікат „Даравальны запіс Канстанціна". Выдуманы „Даравальны запіс" адкідваў палітычныя прэтэнзіі Візантыі да Італіі, стрымліваў імкненні лангабардаў захапіць Рым і ўмацоўваў распачатую епіскапам, а пасля мітрапалітам Баніфаціем цэнтралізацыю Заходняга Касцёла і вызначаў наступную мэту — цэнтралізацыю ўсяго хрысціянства. Распаўсюджванне маны сярод цёмных франкаў і лангабардаў давалася лёгка, паколькі нават іхнія каралі не ўмелі ні чытаць, ні пісаць. Піпін патрабаваў ад караля лангабардаў Айстульфа адысці ад Рыма і вярнуць папу гарады ад грэкаў. Калі Айстульф адмовіў, то Піпін у 754 г. разбіў войскі праціўніка і той папрасіў заключыць мір. Айстульф аддаў папу Равену і адступіў ад Рыма, але іншых гарадоў не аддаў. Тады Піпін другі раз пайшоў супраць Айстульфа і ў 756 г. у Павіі прымусіў яго да пакорнасці. 755 і 756 гады ў гісторыі Рымска-каталіцкага Касцёла лічацца пачаткам касцельнай дзяржавы. Не было гэта яшчэ поўнае паражэнне лангабардаў і разрыў з Візантыяй. Яшчэ папа Сцяпан III (752—757), а пасля яго Павел I (757—767), Сцяпан IV (768—772) і Адрыян I (772—795) фармальна прызнавалі візантыйскага імператара Канстанціна V Капроніма (771—775), іканаборца. І толькі ў снежні 781 г. імператрыца Ірына (772—795) адмовілася ад прэтэнзіі на Італію, бо патрэбна ёй была дапамога рымскага папы ў яе палітыцы, якой кіравалі кансерватары і праціўнікі іканаборства.

**ДЗМІТРЫЙ ШАТЫЛОВІЧ**

❐

Фэстыны, фэстыны

## ПРЫГАЖОСЦЬ І БАГАЦЦЕ

У сонечную і спякотную нядзелю, 24 ліпеня г.г., адбыліся два беларускія фэстыны: у **Чаромсе** (ля гміннага асяродка культуры) і ў Орлі (за пасёлкам, у засені дрэў). Жыхарам гэтых мясцовасцей прынеслі яны нямала задавальнення: маглі яны ў сябе на месцы паглядзець і паслухаць лепшыя беларускія мастацкія гурты. Старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Янка Сычэўскі да ўдзельнікаў фэстыну ў Чаромсе сказаў: „Асноўная задача фэстынаў — несці прыгажосць і багацце беларускай культуры". І так яно ёсць у поўным сэнсе гэтага слова.

У Чаромсе фэстыну чакалі ўсе жыхары мястэчка і навакольных сёлаў. На сцэне выступілі мясцовыя калектывы: „Вульчанкі" з Вулькі-Тэрахоўскай, маладзёжны гурт „Чарамшына" з Чаромхі ды „Каліна" з Дашоў, а таксама хор Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку, гайнаўскі гурт „Рэаль" і ансамбль „Маланка" з Бельска-Падляшскага ды хор „Чарняначка" з вёскі Чарняны Брэсцкай вобласці.

Надоўга ў памяці меламанаў застануцца песні ў выкананні гэтых спевакоў. Добра зарэкамендавала сябе „Чарамшына", гурт, які заснавалі юнакі і дзяўчаты ў лістападзе мінулага года. Доўга са сцэны не адпускалі славутую „Маланку" з Бельска (ансамбль праспяваў сем адметных, розных па жанры, пачуццёвым клімаце ды стылі, песень). Высокае вакальна-музычнае майстэрства паказаў замежны мешаны ансамбль „Чарняначка". У яго багатым рэпертуары самыя розныя — лірычныя, журботныя і вясёлыя — песні, ірдзістыя частушкі, адборны гумар.

... І так спявалі калектывы, а маладзенькія дзяўчаткі танцавалі сабе побач канцэртнай эстрады і ў такт дынамічных мелодый, і ў такт цудоўнага вальса ў выкананні гурту „Рэаль", і пад музыку ды спеў галасіста-звонкай „Маланкі". Удзельнікі фэстыну слухалі задушэўныя беларускія песні, купілялі касеты з мелодыямі, запісанымі падчас сёлетняга Фестывалю беларускай песні ў Беластоку ды гурту „Рэаль". Многія жадалі набыць сабе касетныя запісы „Маланкі" (Бельск) і „Родыны" (Дубяжына), а таксама кніжныя выданні БГКТ і Ваяводскага асяродка анімацыі культуры. Свае кніжкі падпісвалі „беластоцкія" — Мікалай Гайдук і Янка Целушэцкі.

У **Орлі** вядучая канцэрт Валянціна Ласкевіч запрашала на сцэну пад магутнымі дрэвамі то „Васілёчкі" і „Маланку" з Бельска-Падляшскага, то „Каліну" з Дашоў, то беластоцкі хор БГКТ, то „Рэаль", то імпартную „Чарняначку". На народнае нядзельнае святкаванне прыехала і прыйшло многа людзей. Напрацаваліся журналісты Юрка Ляшчынскі і Мікалай Ваўранюк, якія бралі інтэрв'ю для радыё ў лепшых выканаўцаў беларускіх песень. Фэстынам быў захоплены прысутны ў той час у Орлі пасол у Сейм РП Сяргей Плева.

Варта адзначыць вялікае заангажаванне ў падрыхтоўку і ў правядзенне гэтых масавых мерапрыемстваў перш за ўсё войтаў гмін: Міхала Врублеўскага з Чаромхі і Міхала Іванчука з Орлі ды дырэктараў ГОК: Тамары Кердалевіч (Чаромха) і Аліны Петручук (Орля). У Чаромсе артыстаў частавалі абедам, які падрыхтавала кухня мясцовай школы. Усім ім належыцца шчырая сардэчная падзяка.

Наступныя фэстыны: 14 жніўня — у Кленіках (Чыжоўская гміна) і ў Дубічах, 21 жніўня — у Міхалове і ў Гарадку ды 28 жніўня — у Нарве. Запрашаем усіх, каму дарагая і блізкая сэрцу беларуская песня: прыйдзіце! Не пашкадуеце!

**ЯСЕНЬ**

## УЛАДЗІМІР КЛІШЭВІЧ — ПАЭТ РЭФЛЕКСІЎНЫ

### Частка XVIII

Стык шасцідзесятых і сямідзесятых гадоў мае ў жыцці Уладзіміра Клішэвіча пераломны характар. Адмоўныя адносіны да Захаду давялі паэта да вострага духоўнага крызісу. Расчараваны Амерыкай усё часцей і ўсё дабразычлівей пагладаў ён на Савецкую Беларусь, якую ў канцы наведаў, насуперак радам, папярэджанням і крытыцы з боку многіх беларускіх эмігранцыйных дзеячоў і пісьменнікаў. Настальгія па радзіме была мацнейшай ад усякіх сумненняў і боязяў. Туга перамагла і паэт паехаў у БССР. Адбудаваная з ваенных руінаў краіна зрабіла на пісьменніку вельмі добрае ўражанне і ён не толькі пачаў ёй прысвячаць свае вершы але і пастанавіў у яе вярнуцца на пастаяннае жыхарства. Зразумела, што такі крок меў бы для тагачаснай савецкай прапаганды вялікае значэнне. Намер гэты аднак не здзейсніўся. У бліжэй нявысветленых акалічнасцях у 1978 годзе пісьменнік заўчасна памёр у ЗША.

Сямідзесятыя гады могуць быць названы новым перыядам у творчасці Уладзіміра Клішэвіча. Парадаксальнасць гэтага новага этапу ў паэзіі пісьменніка заключаецца ў тым, што ён у істоце мае неасавецкі характар. Жывучы ў Амерыцы, паэт закаханым позіркам пагладаў на Савецкую Беларусь і пісаў аб ёй вершы. Творы гэтыя былі прасякнуты пачуццём сімпатыі і любові да роднага краю. Такія вершы гэтага перыяду, як „Сябрам", „Мінск", „Хатынь", „Дарогі мяне прывялі" выяўлялі не толькі прывязанасць і любоў да пасляваеннай Беларусі, але характарызаваліся вернасцю прынцыпам сацыялістычнага рэалізму, які ў той час абавязваў усіх савецкіх пісьменнікаў.

Відаць, Уладзімір Клішэвіч зразумеў, што для таго, каб заіснаваць у беларускай савецкай літаратуры, трэба не толькі змест, але і форму паэзіі падпарадкаваць акрэсленым савецкім канонам. І ён гэта зрабіў.

Вершы Уладзіміра Клішэвіча пакідаюць ранейшую рэфлексіўнасць і глыбокую суб'ектыўнасць і набываюць характар лірычных або лепш сказаць публіцыстычных дэкларацый. Прыкладам такой паэтычна-ідэйнай эвалюцыі можа быць яго верш „Мінск".

*Свет праменняў над роднай*
*сталіцай,*
*Я прыйшоў да цябе пакланіцца.*
*За вяліччаа твае і адвагу*
*Аддаю свайго сэрца прысягу.*
*Ад дзядоў і да вольных унукаў*
*Сэрца пульс новым рытмам застукаў.*
*Жыць табою — жывою крыніцай,*
*Пакуль сэрца адмовіцца біцца.*

Мяне асабіста гэты верш здзіўляе. Паводле мяне, напісаны ён не гордым, а толькі пераможаным паэтам. Гэты твор напісаны не стоячы, але на каленях. У гады ўзнікнення гэтага твора я часта бываў у Мінску і гэты поўнасцю зрусіфікаваны горад, горад без ніводнай беларускай школы, не выклікаў ува мне ўзнёслых, амаль што культавых пачуццяў. Аднак кожны паэт мае права на свае ўласныя думкі, ідэі і ацэнкі і таму я не намерваюся асуджаць Уладзіміра Клішэвіча.

Памятайма яшчэ і аб тым, што на пачатку сямідзесятых гадоў на кожным беларускім эмігранце стаіць кляймо здрадніка, нацыяналіста, паслугача і што ў такой сітуацыі кожны беларускі эмігрант, які прыязджаў у БССР, павінен быў праявіць адпаведную пакору. Аднак пакора — гэта адно, а пахвальныя гімны — гэта другое. Уладзімір Клішэвіч стараўся спяваць гімны.

Я асабіста не раблю трагедыі з прычыны ідэйнай эвалюцыі ў поглядах паэта, бо кожны творца мае на гэта права. Здзіўляе мяне эвалюцыя клішэвічаўскай паэтыкі, якая выразна пайшла ў бок спрошчанасці, публіцыстычнасці і палітычнасці. Здаецца мне, што паэт павінен быў берагчы сваю Музу ад гэтых грозных хвароб.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

## У ЯГУШТОВЕ

16 ліпеня заехаў я да інж. Барыслава Рудкоўскага і мы падаліся на веласіпедах у Ягуштова. Жар ліўся з неба такі, што нават дыхаць было цяжка. Трава пасохла і збожжа пачало даспяваць заўчасна. Перад Ягуштовам у месцы, дзе бралі гравій, даўней стаяла вада, нават дзеці ў ёй купаліся. А сёння смецце туды высыпаюць, многа ўжо засыпалі — бульдозер ад шашы спіхае.

У Ягуштове людна там, дзе прадаюць піва. Людзі расселіся ў цяньку пад яблыняй. На канцы вёскі ёсць сажалка, з якой сяляне набіраюць ваду ў бочкі і возяць у поле паліваць агароды.

Паехалі мы ва ўрочышча Баравіска, каб пабачыць гэты цудоўны куточак і цэркаўку, якую праектаваў інж. Барыслаў Рудкоўскі. З шашы ў лес вядзе пясчаная дарога. Цяжка было нам на веласіпедах дабрацца на месца. Там спаткалі мы настаяцеля Ягуштоўскага прыхода а. Яўгенія Хадакоўскага, які запрасіў нас на абед, прыгатоўлены матушкай. Смакавала ўсё, асабліва пірожнае. Сардэчна пагутарыўшы на роднай мове, мы пад вечар вярнуліся ў Бельск.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

## НА БЯЗРЫБ'І І РАК — РЫБА

Белавежа не мае шчасця да турыстычных даведнікаў. Час ад часу паявіцца ў продажы нейкая брашура, дык і хутка разыдзецца. Пакуль выйдзе новая, мінае пару гадоў. Гэтую з'яву лічу ненармальнай. Такая мясцовасць, як Белавежа, павінны мець свае інфарматары ў пастаянным продажы, прычым на розных мовах. А як ёсць з гэтым сёлета?

У продажы знаходзіцца невялічкі даведнік „Białowieża" Чэслава Аколава, выдадзены ў 1989 г. і буклет „Puszcza Białowieska" Эдварда Бадыды і Кшыштафа Вольфрама, выдадзены ў... 1981 г. Што ні сказаць пра іх, яны не ў змозе цалкам задаволіць турыста. Першая кніжачка ў многіх месцах дэзактуалізавалася, а ўдадатак адсутнічаюць у ёй здымкі. Пра другую можна гаварыць толькі як аб архіўным выданні. У продажы, на шчасце, знаходзяцца таксама дзве карты Белавежскай пушчы, з якіх адна апрацавана і выдадзена з думкай аб арнітолагах. Другая, у тэкставай частцы, змяшчае многа ўсебаковых інфармацый аб пушчы. І хіба толькі гэтае выданне (усё ж не без памылак і недакладнасцей!) у нейкі спосаб выратоўвае сітуацыю.

Каб нехта не абвінаваціў мяне ў замоўчванні іншых выданняў інфармую, што можна яшчэ купіць брашуру Збігнева Красіньскага „Żubr — relikt minionych epok" (ёсць таксама яе англійская і нямецкая версіі), лістоўку-даведнік аб паказным запаведніку зуброў (таксама мае версіі для замежнікаў) і альбом „Rezerwaty biosfery w Polsce", у якім змяшчаецца раздзел і аб Белавежскім нацыянальным парку пяра Ч. Аколава. З той адной заўвагай, што гэта ўсё ж даведнікі пра паасобныя турыстычныя аб'екты, а не пра ўсю пушчу.

Гэты невялікі выбар белавежскай турыстычнай літаратуры пастараліся павялічыць напачатку сёлетняга сезона Аддзяленне культуры, спорту і турызму Ваяводскай управы ў Беластоку і Праўленне Беластоцкай акругі Саюза польскіх мастакоў, выпускаючы трохмоўны (польска-англійска-нямецкі) буклет „Puszcza Białowieska". Гэтае выданне мае форму раскладной карты памерамі 60,5 х 42 см. Асноўную частку буклета займаюць сямнаццаць каляровых, прыгожых здымкаў Януша Гарэзьняка і Анджэя Вежбянца.

Прыцягвае ўвагу таксама мастацкая (пластычная) карта паўночна-заходняй часткі Белавежскай пушчы. Выдаўцы, праўда, не інфармуюць, што яна свой прататып мае ў карце, змешчанай у італьянскім штотыднёвіку „Epoca" (Эпоха) н-р 1221 ад 1974 г., пры артыкуле „Białowieża l' ultimo rifugio del Bisonte Europea" напісаным А. Сегалім і М. Бясім. Усё ж таму, хто ведае гэтую публікацыю, паралель паміж абедзвюма картамі будзе аж надта відавочная. На жаль, трэба сказаць, што мастак, які перамалёўваў карту, напэўна ніколі не бачыў пушчы з птушынага палёту. Сведчаць аб гэтым адсутнасць розных, важных дэталяў і няправільны абрыс Белавежскай паляны, асабліва ў яе паўднёва-заходнім баку.

Па ўсёй карце параскіданы мініяцюрныя малюнкі — значкі з выявамі 9 відаў звяроў і птушак, якіх можам убачыць у гэтым лясным комплексе. На маю думку, такая інфармацыя мела б сэнс толькі ў выпадку рэдкіх відаў, з неабшырным арэалам засялення. Турысту і так вядома, што зубра, аленя ці дзіка можна сустрэць у пушчы ўсюды. Што датычыць рысі і ваўка, то я якраз сумняваюся, ці на гэтых драпежнікаў можна натрапіць толькі ў азначаных месцах. З практыкі ведаю, што яны ходзяць па цэлай пушчы. Незразумелы ёсць для мяне надпіс „Rezerwat ścisły Orłówka" на тэрыторыі Белавежскага нацыянальнага парку. Запаведнік з такой назвай не існуе ні ў парку, ні ў апошніх частцы пушчы. Арлоўка — гэта рэчка, якая перасякае дакладны запаведнік.

У буклеце змешчаны таксама планік Белавежы, у маштабе 1 : 25 000. Што перш за ўсё кідаецца на ім у вочы, гэта недакладныя назвы некаторых вуліц: Wojciechowska замест Wojciechówka, Olgi Grabiec замест Olgi Gabiec. Няма таксама Zaułków 1, 2, 3 — ёсць жа: Zaułki — Osoczników, Bartników і Rudników. Рэчка названая Kliczyniówka гэтак не называецца. Наогул Kliczyniówka ужо не існуе (засохлы прыток Нараўкі, за вёскай Застава). Я думаю, што могуць абразіцца і ўласнікі скансэна, якія на планіку „ўвайшоў" на пляц асяродка Брацтва праваслаўнай моладзі.

Ёсць у буклеце таксама невялікі інфармацыйны тэкст, які належыць пяру Чэслава Аколава, аб пушчы і аб'ектах, якія варта наведаць. У тэксце напамінаецца і аб беларускай частцы пушчы, якая ў 1991 г. пераўтварылася з запаведна-паляўнічай гаспадаркі ў дзяржаўны нацыянальны парк.

Тыраж выдання выдаўцы замоўчваюць.

Падсумоўваючы, буклет у невялікай толькі ступені выпаўняе інфармацыйны прабел у даведніцкай літаратуры аб Белавежы і Белавежскай пушчы. Усё ж, на бязрыб'і і рак — рыба.

Сапраўднага турыстычнага даведніка прыйдзецца яшчэ пачакаць.

**ПЁТР БАЙКО**

## ГАРАСКОП ДРУІДАЎ

4

ТАПОЛЯ, *(4—8 лютага, 5—13 жніўня)*. Ведаем, што таполя хутка расце, добра пераносіць прамысловае задымленне і ачышчае паветра. Але не ведаем усіх яе магчымасцей, а таму і не развіта ў нас культура таполі — яе гадоўля, як, напрыклад, у Італіі, дзе таполю разводзяць на спецыяльных плантацыях і за кароткі тэрмін атрымліваюць каштоўную сыравіну для папяровай прамысловасці. Тыя таполі — чорная, белая (з серабрыстымі знізу лістамі), якімі ў нас абсаджваюць вуліцы і дарогі, вырастаюць да 30—35 метраў у вышыню і да 5 метраў у дыяметры. Сваімі магутнымі карэннямі яны псуюць асфальт, а галіны перашкаджаюць, замінаючь сувязістам і энергетыкам. І лёс гарадскіх таполяў вядомы. Таполі любяць святло, і тыя, што трапляюць у цень ад іншых дрэў, гінуць. Гэтая асаблівасць не аказалася па-за ўвагай кельцкіх жрацоў —друідаў. Яны заўважылі, што і тыя з людзей, хто нарадзіўся 4—8 лютага і 5—13 жніўня, марнеюць, калі ім надта цесна, але не любяць жыць у адзіноце. Яны адчуваюць патрэбу ў незалежнасці і адначасова хацелі б падпарадкоўвацца. Такая ўжо супярэчлівая натура гэтых дрэў. Таму трэба ўважліва прыглядацца да іх. Пад уяўнай абыякавасцю і нават неміласэрнасцю хаваецца далікатная і ўражлівая душа, што заўважае нават найменшыя ўразы. Але адвага, гордасць і амбіцыі не дазваляюць таполі паддавацца найцяжэйшым сітуацыям, і яна дасягае шмат у жыцці.

*(працяг у наступным нумары)*

## ПАРАДЫ ГАСПАДАРАМ

**Каб фруктовыя дрэвы штогод давалі плады**

Шмат гатункаў фруктовых дрэў, у прыватнасці яблыні, пладаносяць кожны другі год. Аднак магчыма прымусіць іх да штогадовага пладанашэння. Шматлікія гатункі яблынь схільныя пладаносіць з году ў год, але пладаносяць пераменна па прычыне перасіленага выдання пладоў у папярэднім годзе.

Садаводы карыстаюцца ўжо некалькімі спосабамі прымушэння фруктовых дрэў да штогадовага пладанашэння. Робіцца гэта шляхам прарывання пладовых завязак або знішчання часткі квецця. Можна, напрыклад, знішчыць пры дапамозе адпаведнага апырсквання ўсё квецце на адной палове дрэва, якое пладаносіць кожны другі год. З таго часу пачнем збіраць фрукты з дрэва штогод — раз з адной паловы, другі раз — з другой.

З мэтай разрэджання фруктовых завязак на ўсёй кароне дрэва, якое пладаносіць кожны другі год, прымяняюцца зараз у садах хімічныя сродкі. Апырскванне — толькі 2—4 грамы на 100 літраў вады — праводзіцца ў першыя два тыдні пасля квітнення, што выклікае частковыя ападкі маладых фруктовых завязак.

Прарэджванне завязак вельмі аплачваецца. Сабраны ўраджай за адзін год будзе, што праўда, меншы, але затое за два гады разам будзе ён большы амаль на 25%. Фрукты будуць большыя і смачнейшыя.

**ЯСЕНЬ**

## СМЕРЦЬ БАЦЬКІ

Памёр Бацька Карыо. Заплакалі дзеткі яго мнагалікія; малыя і вялікія: А хто ж нас карміць будзе? А хто ж дасць і мужчынам, і жанчынам, і дзеткам уніформы на дзень нараджэння Бацькі Карыо? А хто ж дасць малышам вайсковыя шапкі? А хто ж дасць вінтоўкі? А хто пакажа ворагаў нашых? А хто ж нас ад іх абароніць? Хто ж нам прыкажа, як гаварыць і думаць маем? Хто запэўніць нам дабрабыт наш незвычайны?

* * *

Сорак адзін год таму памёр Бацька Крывіі. І былі плакалі дзеткі яго таксама. Паплакалі і перасталі. І амаль зусім Яго забылі. Бо жылі ж усё-ткі добрыя Дзядзькі, якія і на ворагаў паказвалі, і ў мундзіры на некалькі гадоў апраналі, і вінтоўкі давалі, і дабрабыт незвычайны і парадак трымалі. Ды прыйшла смерць і забрала добрых Дзядзькоў ад дзетак Крывіі. І не стала прывычнага парадку. І дзеткі Крывіі засумавалі і затужылі за Добрым Бацькам. І стаў адзін з сыноў Крывіі і сказаў: — Я буду вашым Бацькам і пастараюся апрануць вас ва ўніформы, і пастараюся вінтовак вам даць, і пастараюся дабрабыт ваш падняць. І стаў другі з сыноў Крывіі і сказаў: — Я апрану вас у мундзіры, і дам вінтоўкі, і пакажу ворага, і завяду дабрабыт незвычайны, і завяду парадак парадачны. І сказалі Другому дзеткі Крывіі: — Ты будзеш нашым Бацькам!

* * *

Не плачце дзеткі Карыо! Праляціць чатыры дзесяткі гадоў. І загляне сонца і ў ваша ваконца!

**АДАМ МАНЬЯК**

## ВІРАВАНКА



1. сістэма ведаў, 2. мясцовасць над Усвяцкім возерам (Расея), 3. жонка Ягайлы, 4. горад у Сібіры недалёка ад возера Байкал, 5. краіна на Блізкім Усходзе, 6. міжземнаморская дзяржава, 7. кухонная анучка для выцірання стала, 8. жыхар Пекіна, 9. штат над Берынгавым пралівам, 10. контур, ценявы адбітак, 11. распад, разлажэнне.

(ш)

Сярод чытачоў, якія прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 25 н-ра:**

**Гарызантальна:** Ларыса, Абакан, жабрак, цьма, прас, славянафоб, маяк, Кама, смецце, асілак, лайдак.

**Вертыкальна:** лапаць, сажа, абак, ананас, браняносец, масляк, пробка, Мадрас, мастак, смак, цела.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць **Пётр Байко** з Белавежы і **Аляксандр Дабчынскі** з Беластока.

***МІНІ ДАВЕДНІК***

**Усвяты** — мясцовасць у Пскоўскай вобласці.

## ЧАРАЎНІКІ

3

Каб зрабіць камусь крыўду чарамі, трэба знацца з чортам. Інакш чары не будуць дзейнічаць.

Я верыла і не верыла ў гэтыя страшныя і займальныя апавяды, аж пакуль не сустрэлася, працуючы ў бальніцы другі год, з адным старым мужчынам. Перавялі яго да нас з аддзялення хірургіі.

Я прынесла яму малака, а ён узяў мяне за валасы і сказаў, які ў мяне характар. Пасля ўзяў маю руку і сказаў усю праўду пра маё жыццё. Я была пад вялікім уражаннем. Я любіла, як хтосьці мне варажыў, штосьці прыцягвала мяне да таемных спраў, хоць не пераймалася варажбой.

— Калі вы хочаце паваражыць, то папрасіце ў мужчын карты, я бачыў, што хворыя ў іх іграюць.

Мне не трэба было паўтараць два разы. Пазычыла карты і яшчэ паклікала аднаго знаёмага хлопца, які ляжаў у нашай бальніцы. Ён толькі ўсміхнуўся на прапанову, але рашыў паслухаць, што яму скажа варажэй.

Мы ўвайшлі ў палату, варажэй пагледзеў на нас і запытаўся:

— Можа, вы думаеце пабрацца?

— Можа і так, — засмяяліся мы. Сапраўды пра такое нават аднае думкі ў нас не было.

— Вы не смейцеся, — сказаў варажэй, — бо насмяецца з вас лёс.

Мы перасталі смяяцца. Паваражыў ён нам па чарзе. Нарэшце сказаў мне:

— Вы не ідзіце за яго, бо ён п'е. Ад гарэлкі нават чары не памогуць. А калі хочаце кагосьці да сябе прыцягнуць, то ў ежу яму трэба даць крыху сваёй месячнай крыві, а калі гэта не дапаможа, то ў такім выпадку трэба збрыць сабе тры валасы з узлоння, сцерці іх на парашок і даць каханаму ў страву, тады яго можаце пры сабе затрымаць назаўсёды.

Гэта быў апошні дзень працы перад маім водпускам. Ноч у кастрычніку пачынаецца рана. Калі я ішла да цягніка, нічога не баялася. Калі прыехала ў Семяноўку, ахапіў мяне нейкі страх. Заўсёды мне трэба праходзіць ля могільніка, але ногі мяне самі павялі ў другі бок. Ісці мне было страшна. Здавалася, хтосьці мяне гоніць і вось-вось схопіць за плечы. Я малілася, але страх мяне не пакідаў. Калі я павярнула на дарогу дадому, мне стала яшчэ страшней. Калі я дайшла да свайго плота, адчула, што хтосьці мяне схапіў за спадніцу. Я азірнулася, але нікога побач не было. Не памятаю, як дабралася я да дзвярэй!

З таго дня ўдзень не было мне страшна, але вечарам не мела проста куды падзецца. Здавалася, усё нехта ходзіць за маёй спіною. Так было дзесяць дзён, а потым усё прайшло, як рукой адняў. Дзень перад канцом водпуску я пайшла ў краму. Там сустрэла таго хлопца, з якім хадзіла да варажэя.

— Памятаеш таго чалавека, што нам па картах варажыў?

— Вядома, памятаю, — усміхнулася я.

— Няма яго ўжо ў жывых. Памёр тры дні таму. А я ўчора з бальніцы выйшаў.

— Зямля яму пухам, — ціха сказала я.

Аб гэтым здарэнні я расказала маме. Маці накрычала на мяне, каб я больш і не падумала даць варажыць сабе з рукі, бо людзі кажуць, што гэта кепска. З магіяй лепш увогуле не мець дачынення, бо як няма дабра ад Бога, то яго не трэба ад д'ябла.

Успомніўся мне апавяд адной жанчыны. У яе вёсцы хадзіў хлопец да дзяўчыны, але і не думаў з ёю жаніцца. Узяў іншую сабе за жонку. Маці кінутай дзяўчыны прынесла ім у шлюбным падарунку два вельмі прыгожых кілімы, хоць на вяселле яе не запрасілі. Бацькі не далі іх з'есці маладым, а пачасталіся самі. Пасля таго так пачалі сварыцца і біцца, што сын вазіў іх потым да варажэя, каб адчараваў замову.

**АЎРОРА**

## БАБКА

Паўстагоддзя таму людзі на вёсцы не ведалі акушэрак і, калі жанчыны радзілі, дзяцей прымалі бабкі. Аднаму гаспадару пачала жонка радзіць і ён пайшоў па бабку. Надвор'е было надта дрэннае: было холадна, ішоў дождж. Зайшоў гаспадар да бабкі і гаворыць, каб яна ішла з ім да жонкі, бо жонка родзіць. А тая бабка накінулася на яго з крыкам, што прыйшоў пехатою.

— Я ў такую пагоду не пайду! — сказала.

А чалавек просіць:

— Бабко, злітуйцеся, я вас панясу „на барана".

Бабка згадзілася. Узяў мужык бабку на плечы і панёс. Было далекавата, мужык утаміўся і сказаў бабцы, што хоча адпачыць, бо яму цяжка. Бабка загадала, каб яе ў балота не ставіў. Мужчына сказаў, што недалёка ёсць студня і там яе, бабку, пасадзіць. Бабка згадзілася. Пасадзіў яе мужык на мокрую студню і пакуль абярнуўся да яе тварам, бабка паслізнулася і ўпала ў студню. Ён крычыць у калодзеж:

— Бабуль, бабуль!

А з калодзежа чуе:

— Буль, буль, буль.

Як прыйшоў дадому, то дзіця ўжо нарадзілася, але бабка ў студні ўтапілася.

**А. БАРТАШЭВІЧ**




**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраповіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1994 r. upływa 20 sierpnia 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 9000 zł., a kwartalnie - 117000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Пародыі

## ПРЫСВЯЧЭННЕ ДНЮ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

*Між сталоў дубовы лавы,*
*А на лавах — блатата...*

*Дзякуй Богу, не ў кавярнях*
*Беларусь жыве.*

**В. Шніп**

Не ў метро і не ў кнігарні,
Дзе павук жыве,
А на покуці ў кавярні
Беларусь жуе.

На стале абрус памыты,
Закусь і пітво,
Ї бармэн як не сярдзіты,
Дык музончык — во!

Лезуць п'яныя паэты,
На халяву каб
Выпіць з ёй за свята гэта,
Толькі я аслаб...

Лёг зняможана пад лаўку,
Выціраю пыл.
Нат на дробную халяўку
Не хапіла сіл.

Беларусь, каго ты поіш? —
Я шапнуў і скіс, —
Пісьмянкоў, Мятліцкі, Воюш,
Акаянны Сыс...

Хуткім крокам, скокам-бокам
Да чытацкіх мас...
Толькі косіць мутным вокам
Зрэдку мой Пегас.

**МІХАСЬ СКОБЛА**
**(„Розгі ў розніцу")**

# НІЎКА



Мал. Я. Бусла

## СЕНТЭНЦЫІ

Банан — смак сонца.

* * *

Пагрэбаванае каханне, як корань кактуса, сасмаглае і кароткае.

* * *

Калі б жыццё было сэнсам, мусіла б мець мэту.

* * *

Пакараючая ўсмешка красы ў экстазе квітнення.

**БАРЫС РУСКО**

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

Паліцыянт затрымоўвае п'янага.

— Вашы даку..., даку..., даку... . А, к чорту, ідзі дадому! У мяне сёння добры гумар.

* * *

Дзяжурань два паліцыянты і нудзяцца:

— Давай гуляць у шашкі, — гаворыць адзін.

— Э-э, не выпадае; на прошлым тыдні пахаваў жонку.

— Чаму не выпадае? Гуляць будзем чорнымі пешкамі.

* * *

Каля помніка Міцкевіча праходзіць падпіты Коля. Раптам чуе:

— Эй, ты, прывядзі мне каня! .

Коля разгляну́ўся: навокал нікога няма.

— Эй, ты, да цябе гавару, прывядзі мне каня!

Цяпер Коля не меў ужо сумненняў, што гэта помнік прамовіў да яго. Спалоханы пабег у найбліжэйшы камісарыят паліцыі. Камендант выслаў разам з ім участковага, каб той высветліў у чым справа. Калі яны ўдвух падышлі да помніка, Міцкевіч адазваўся:

— Ах ты п'яніца; я ж табе выразна сказаў прывесці каня, а не асла!

* * *

У краму з бытавымі электрапрыборамі ўваходзіць паліцыянт:

— Хачу купіць пыласос, можа быць гэты сіні.

Прадаўшчыца падае яму пакунак і ветліва гаворыць:

— Віншую вас з удалай пакупкай! Ваша жонка напэўна будзе задаволена.

— Так думаеце?! Дык дайце яшчэ тры!

* * *

Уваходзіць паліцыянт у краму:

— Ці ёсць прасы?

— Не, няма. Маем затое прасавальныя дошкі.

— А многа яны расходуюць электраэнергіі?

* * *

Паліцыянт спыняе самаход.

— Хукніце ў пробнік цвярозасці, — гаворыць шафёру.

— А ці я мушу?

— Хочаце, пэўна, каб гэта я зрабіў? Тады напэўна страціце вадзіцельскія правы.

* * *

Паліцыянт астанаўляе Грышу, у якога з кішэні тырчаць сярэбраныя відэльцы і лыжкі:

— Прызнайцеся, дзе гэта ўкралі!

— Нідзе не краў, гэта маё.

— Дык чаму носіце ў кішэнях?

— Таму, што ў мяне дома няма пасуднай шафы.

Запісаў
**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

## ПІШУ ЯК ЖЫВУ

*(вынятка з кнігі)*

* * *

Два дзядзькі, сталяр і памагаты, абедаюць у дачніка, якому робяць прыбудоўку. Узяўшы па чарцы, разгаварыліся. Спыталіся ў гаспадара, дзе быў, што бачыў. Калі дайшло да Індыі, а там да таго, што людзі мяса не ядуць, не п'юць гарэлкі і віна, памагаты, без пары састарэлы, знягеглены штодзённай „чарнільнай" практыкай, уздыхнуў пра тых, спрадвеку вегетарыянцаў ды цвярэзнікаў:

— Ну што ты хочаш — цемната!..

**ЯНКА БРЫЛЬ**

## ХТО КАХАЕ ПА-САПРАЎДНАМУ?

Паспрачаліся тры сяброўкі — Арына, Марына і Таццяна — аб тым, хто з іх лепей да свайго мужа ставіцца. Скінуліся па сорак тысяч рублёў, купілі ў кааператыўным кіёску бутэлечку знакамітай „Шанэлі", каб потым пераможцы ўручыць у якасці прыза.

Арына гаворыць:

— Я, калі мой муж дадому прыйдзе, вячэру на стол пастаўлю, накармлю, у кватэры прыбяру, мужа распрану, касцюм і кашулю папрасую, а калі засне, то веерам усю ноч мух ад яго адганяю...

— Можа быць, — згаджаецца Марына.

— Так-так, — падтрымлівае Таццяна.

Марына кажа:

— А мой муж, калі позна вечарам дахаты з'явіцца, я на двор выйду, „Запарожац" памыю, усё вычышчу, каб машына блішчэла, як новенькая, і недзе ў дванаццаць ночы спаць кладуся.

— Можа быць, — ківае Арына.

— Канечне, — падтрымлівае Таццяна.

— Ну, а ты што скажаш? — звяртаецца да Таццяны Марына.

— А я... Я, калі з работы вяртаюся, у кватэру заходжу, бягу спачатку ў спальню і калі бачу ў нашым ложку свайго мужа з яговай сяброўкай, адразачку бягу на кухню, гатую ім закусіць, зразумела, і каньячку наліваю, і чорнай кавы... І з ветлівай усмешкай нясу ім у ложак.

— Не можа такога быць! — усклікае Арына.

— Ні ў якім разе! — дадае Марына.

Таццяна, усміхаючыся, бярэ са стала бутэлечку „Шанэлі" і кладзе ў сваю сумачку. Яна пераможца!..

**УЛАДЫСЬ ЦВЯТКОЎ**

## ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

### ВЯДЗЬМАРКІ

*(працяг; пачатак у н-ры 40 за мінулы год)*

#### Вядзьмарка-кантрабандыстка

Напэўна, няма сферы людской дзейнасці, куды б не ўблытваліся вядзьмаркі, і кантрабанда — не выключэнне. З нядаўніх часоў найбольш прыбытковым заняткам жыхароў памежных з Польшчай раёнаў з'яўляецца кантрабанда нелегалаў-азіятаў праз мяжу — пераважна грамадзянаў сацыялістычнага В'етнама і фундаменталісцка-ісламскага Пакістана. На N-скай памежнай заставе, што непадалёку ад Кузні-Беластоцкай, камандзір ужо некалькі гадоў спраўна браў хабар з нелегальных эмігрантаў, але з пачатку года плынь азіятаў як адрэзала. Камандзір быў у роспачы; ён і не здагадваўся, што перавозкай нашых меншых братоў-в'етнамцаў занялася тутэйшая вядзьмарка. Карыстаючыся традыцыйным сродкам палёту — памялом, яна за адзін рэйс перавозіла праз мяжу да дзесяці легкаважных эмігрантаў; ніхто не мог даць гэтаму рады, бо вядзьмарка звычайна лётала на малой вышыні, так што яе не маглі выявіць радары супрацьпаветранай абароны. Генералітэт патрабаваў з камандзіра заставы дзяліцца прыбыткам, і ніяк не мог даць веры, што праз ягоную заставу не праходзіць жывая кантрабанда. Магчыма, яго б і знялі з пасады, каб не здарылася наступнае. Аднойчы памежны дазор абыходзіў кантрольную паласу і заўважыў на дратах лініі электраперадачы абвугленыя тушкі незразумелага паходжання: занадта вялікія для варон і занадта малыя для нармальных людзей. Прапаршчык выказаў, што гэта прыляцела зграя чорных буслоў, але ж знойдзенае пад апорай памяло навяло яго на роздум... Пасля доўгіх ваганняў эксперты з міжурадавай камісіі кваліфікавалі тушкі як рэшткі в'етнамцаў; невядомым заставалася толькі, якім жа чынам зграя азіятаў заляцела ўначы на вышыню дваццаці метраў. Адзіным рэальным тлумачэннем былі садысцка-расісцкія схільнасці начальніка памежнай заставы. І сядзець бы яму ў астрозе, каб праз некалькі дзён з апёкавага цэнтра не паступіла паведамленне, што адна з тутэйшых жыхарак не хоча тлумачыць, дзе атрымала электрычныя апёкі... Пасля непрацяглага, але актыўнага допыту пацярпелая ва ўсім сазналася; следчы эксперымент, падчас якога замест азіятаў выкарыстоўваліся памыйныя каты, пацвердзіў магчымасць перасячэння дзяржаўнай мяжы падобным чынам...

*(Працяг будзе)*

Падрыхтавалі
**ФРАНЦІШАК ХЛУС**
**І МАРЦІН ЮР**

У тваіго шаўца вялікае пачуццё гумару

Мал. В. Дудкі